PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (2074) ГОД XLI БЕЛАСТОК 11 ЛЮТАГА 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)

## Наша Марылька



*Вестка пра смерць Марылькі Базылюк-Саснюк для нашага асяроддзя ёсць тым ударам, з якім ніколі не зможам пагадзіцца. Усе тыя, што хаця б крыху жылі беларускімі справамі, мусілі трапіць у яе бельскую кватэру, — аазіс беларускасці і паэтычнасці. Гадзінамі гаварылі мы там пра ўсё, аб чым баліць сэрца. Марыля кожнага выслухоўвала, сваёй добразычлівасцю, ласкай, незабыўнай чароўнай усмешкай казала верыць у лепшую будучыню. Таксама ў будучыню беларускай ідэі, якой была адной з пачынальніц на Беласточчыне ў пачатку васьмідзесятых гадоў і аставалася ёй вернай да апошніх дзён. Гэтую ідэю Марыля патрапіла ў цудоўны спосаб перадаць моладзі як настаўніца, спярша ў сваіх родных Кленіках, а потым у бельскай „тройцы". Цяжка згадаць і пералічыць усіх тых, хто адчуў сябе беларусам, дзякуючы яе адданасці свайму народу. Вера ў лепшы свет, вера ў тое ўсё, што самае лепшае ў чалавеку была ў яе заўсёды, нягледзячы нават на цяжкую хваробу.*

*І гэтай верай, і гэтымі ідэямі, якімі Ты жыла, Марылька, мы хочам быць таксама моцнымі! Дзякуй Табе. Заўсёды будзеш у нашых сэрцах.*

*СЯБРЫ*

## Гэта будзе год юбілею

Размова з ЕЖЫ БІСЯКАМ — дырэктарам Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва.

*— Ці змена назвы Бюро п/с нацыянальных меншасцей на Бюро п/с культуры нацыянальных меншасцей абазначае нейкую змену ў палітыцы дзяржавы ў адносінах да гэтых меншасцей?*

— Згаданая змена абазначае проста, што справы, якімі займаецца Міністэрства культуры і мастацтва, названы цяпер па імені. Папярэдняя назва ўводзіла ў зман. Радаслоўе яе такое, што МКіМ пераняло ад Міністэрства ўнутраных спраў справы нацыянальных меншасцей. Нашая ўстанова мела служыць міжведамаснай камісіі пад кіраўніцтвам міністра культуры і мастацтва, але гэтая камісія не спрацавала. На практыцы міністр культуры і мастацтва не быў у змозе каардынаваць і ўплываць на працу іншых ведамстваў і перш за ўсё Міністэрства нацыянальнай адукацыі, але і Міністэрства замежных спраў, Міністэрства ўнутраных спраў ды Міністэрства працы і сацыяльнага забеспячэння.

Мы — дэ-факта — займаліся фінансаваннем культурнай дзейнасці, меншаснай прэсы і выданняў. Усё-такі, паколькі мы дагэтуль з'яўляемся адзінай так выразнай структурай ва ўрадавай адміністрацыі, надалей займаемся збіраннем і распаўсюджваннем інфармацыі аб працы іншых міністэрстваў і пра самыя нацыянальныя меншасці.

*— Як можна разумець, такое становішча ўсё-такі часовае?*

— Увесь час існуе праблема каардынацыі дзеяннях пасобных ведамстваў на ўзроўні Рады Міністраў. Праект патрэбнай установы ўжо падрыхтаваны. Нашае Бюро таксама прымала ўдзел у яго апрацоўцы. На жаль, у цяперашнім палітычным становішчы цяжка сказаць, калі гэты праект будзе ажыццяўляцца.

*— Ці беларуская меншасць выдзяляецца нейкай спецыфікай у працы Бюро на фоне іншых меншасцей?*

— Беларуская меншасць адна з асноўных. Як мы лічым, яна ў краіне трэцяя паводле колькасці, за нямецкай і ўкраінскай меншасцямі. Пражывае кампактна, таму мае магчымасць арганізавацца на месцы. На гэты момант маем 8 беларускіх арганізацый і ўстаноў, якім дапамагаем фінансава. Хачу адзначыць, што хаця беларуская меншасць на трэцім месцы паводле колькасці, дык паводле памераў фінансавай дапамогі з нашага боку яна на другім месцы. Адзін з крытэрыяў, якімі кіруемся ў сваёй дзейнасці, гэта крытэрый матэрыяльнай дапамогі ад Краіны-Маці. Калі нельга спадзявацца на большую дапамогу з боку Украіны, Беларусі ці Літвы, дык не таямніца, што даволі вялікую дапамогу атрымоўвае нямецкая меншасць. Таму, хаця яна найбольшая, атрымоўвае менш. Ведае аб гэтым нямецкі ўрад і згаджаецца нямецкая меншасць, так што няма тут ніякай супярэчнасці.

*— Як параўнальна выглядаюць адносныя сумы для ўкраінцаў і беларусаў?*

— Летась беларуская меншасць атрымала больш за 3,5 млрд. старых злотаў, украінская — 4,5 млрд. Розніца ўзялася перш за ўсё з таго, што раз на два гады арганізуецца ўкраінскі фестываль, які выпаў якраз летась. Фестываль у Пярэмышлі ўкраінская меншасць арганізавала вялікім накладам сродкаў: 1 700 млн. зл., з чаго мы дабавілі толькі паўмільярда.

*— Як выглядае структура гэтых выдаткаў?*

— На жаль, яна не надта карысная. Амаль 65% забіраюць часопісы і выданні. Толькі 35% застаецца на іншую культурную дзейнасць. З другога боку мы не хацелі б ліквідацыі ніякага часопіса. Для меншасцей, якія найчасцей не маюць адпаведных устаноў, рэдакцыі з'яўляюцца якраз культурнымі ўстановамі, якія засяроджваюць інтэлектуальную эліту. Мы не ў змозе забяспечыць фінансаванне рэдакцый на ранейшым узроўні, тым не менш безумоўна ўдаецца забяспечыць іх існаванне.

Вельмі цешыць таксама, што ў часах, калі ў краіне заміpae аматарскі рух, не відаць падобнай з'явы сярод беларусаў. У ансамблях займаецца многа маладых людзей. Гэта сведчыць пра замілаванасць беларусаў у сваёй народнай культуры і патрабуе ахоўвання.

*— Надзвычай важная справа для беларусаў гэта заканчэнне пабудовы*

*Працяг на стар. 4*



*1915 год. Лагер бежанцаў. Фота з выстаўкі ў Бельскім музеі. Пра арганізацыю выстаўкі і яе водгукі чытайце на стар. 8.*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jak wyglądają pisane w ostatnich latach podręczniki najnowszej historii Polski? Zniknęły „białe plamy", dzieci uczą się teraz w szkołach o inwazji Armii Czerwonej na Polskę we wrześniu 1939 r., o zbrodniach komunistycznej władzy PRL. To oczywiste. Ale obecne podręczniki dziejów najnowszych krzepią bardziej niż kiedykolwiek. Prowadziliśmy tylko wojny obronne, w czasie hitlerowskiej okupacji nie było kolaborantów, tchórzy i szmalcowników. Komunizm był w gruncie rzeczy epizodem bez większego znaczenia. Było, minęło.*

*Polityka, nr 3*

Fajnie jest!

* * *

*Нам трэба перастаць падманваць людзей, што як быццам можна аднавіць Савецкі Саюз. Гэта толькі цешыць іх нязбытнымі надзеямі і не накіроўвае на неабходнасць умацавання сваёй дзяржавы,* — сказаў новы старшыня Вярхоўнага Савета РБ Сямён Шарэцкі.

*Голас Радзімы, н-р 3*

Навошта тады, таварышы, так доўга падманвалі тых няшчасных людзей?

* * *

*Тыраж „Нівы" з прыблізна дзесяцітысячнага панізіўся да амаль нулявога,* — піша Міхась Шаховіч, новы супрацоўнік штомесячніка

*Czasopis, nr 1*

Калі хтосьці хацеў бы пазнаёміцца з гэтым незвычайнай сумленнасці чалавекам, можа пазваніць (тэл. 42-11-05) ці напісаць у рэдакцыю „Czasopisa". Рэдактар Міхась дае дарма парады ў кожнай жыццёвай справе, а яго хобі — гэта „шмаль-бізнес".

* * *

*— Podobno podczas ratyfikacji porozumienia białowieskiego przez parlament białoruski przeciwko głosował jedynie obecny prezydent Łukaszenko?*

*— To są legendy, które on sam o sobie opowiada. Ma on taki zwyczaj, że opowiada publicznie historie, które mu się jedynie przyśniły. Naprawdę przeciwko Białowieży głosował tylko Walerij Tichinia — prorektor Uniwersytetu Mińskiego, którego tuż przed delegalizacją KPZR wybrano sekretarzem KC kompartii Białorusi. Ledwo osiągnął człowiek taki szczyt sowieckiej kariery, a tu wszystko rozsypało się w proch. Stąd jego sprzeciw. Jest to jednak człowiek inteligentny, który rozumie realia życia społecznego. Obecnie piastuje stanowisko prezesa Sądu Konstytucyjnego. Natomiast prezydent Łukaszenko wówczas na żaden głos protestu się nie zdobył. Wraz z innymi komunistami był wtedy za rozwiązaniem Kraju Rad. Dopiero teraz odrabia ideowe zaległości,* — сказаў былы старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч.

*Tygodnik Solidarność, nr 2*

* * *

*Kierownictwo PZPR w grudniu 1989 r. w bankach zachodnich miało 22,7 mln franków szwajcarskich oraz 750 tys. dolarów. Główny Oddział Walutowy NBP wydawał zawiadomienia in blanco pozwalające kierownictwu PZPR wywozić bez przeszkód walizki pełne obcych walut i lokować je, gdzie chcieli.*

*Gazeta Wyborcza, nr 14*

Працоўны люд мог толькі ашчаджаць у краёвых дзяржаўных банках. Паклаў — як гаварылі людзі — у банк кароўку, а праз год ашчаджання купіў за яе вяроўку. Некаторыя куплялі бутэльку гарэлкі.

* * *

*7 listopada 1995 r. sto parędziesiąt tysięcy ludzi, wyglądających na normalnych, czciło demonstracjami w Moskwie i innych miastach Rosji 78 rocznicę rewolucji sowieckiej. Pogotowie psychiatryczne nie interweniowało.*

*Tygodnik Solidarność, nr 2*

* * *

*Zanim Andrzej Gawryluk spisał legendy z okolic Widowa i opublikował w białoruskim tygodniku „Niwa", dziecinnymi oczyma postrzegał otaczający go ludowy świat. Nie zdawał sobie jeszcze sprawy, że jest Białorusinem, i że gdzieś tam poza opłotkami Widowa ludzie mówią inaczej niż jego matka i sąsiedzi,* — аналізуе грамадска-псіхалагічныя абумоўленасці творчасці нашага карэспандэнта Андрэя Гаўрылюка ольштынскі

*Dziennik Pojezierza, nr 9*

* * *

*Jerzy Owsiak w coraz większym stopniu zastępuje i wyręcza Ministerstwo Zdrowia. Organizowana przez jego Wielką Orkiestrę Świątecznej Pomocy akcja przyniosła ostatnio więcej pieniędzy na leczenie dzieci — ofiar wypadków — niż przeznacza na ten cel resort zdrowia. Skoro finansowanie Służby Zdrowia zależy już od szczodrości ulicy, to może minister Jacek Żochowski powinien zająć się kwestą?*

*Wprost, nr 3*

Гэта было б найбольш карыснае вырашэнне.

* * *

*Nie każdy człowiek ochrzczony staje się automatycznie chrześcijaninem,* — сказаў айцец Рыгор Місяюк, рэферэнт па справах экуменізму Беластоцка-Гданьскай епархіі.

*Kurier Poranny, nr 15*

* * *

*Czyżbym był agentem CIA,* — задумоўваецца Мечыслаў Ракоўскі.

*Wprost, nr 3*

Але ніхто апрача самога пана Мечыслава не падазрае яго ў шпіёнстве на карысць амерыканцаў. Дадатку да пенсіі, на жаль, не будзе.

* * *

*W powojennym życiu Polski żaden napój nie odegrał takiej roli jak wino owocowe. Alpaga, bełt, sikacz, perszyng — to był napój kultowy. Wierni mu amatorzy powiadali ciepło i z uznaniem, że „kotłuje", „wali w dyńkę" i „nieźle trzepie". Po wojnie nikt nie uważał win za napoje dietetyczne, chyba że można tak je nazwać z powodu bycia stałym i dominującym elementem diety wielu smakoszy. Uwzględniono wyniki badań naukowych, przeprowadzonych w Związku Radzieckim i przystąpiono do wykonania zadań. Wysiłki w tym kierunku zostały uwieńczone sukcesem, gdyż wina owocowe w Polsce stały się artykułem powszechnego spożycia. Wino trafiło pod strzechy i na ulice. Do biur i szkół. Pił je murarz, tokarz, cieśla, zdun i inżynier wykuwając swój szczęśliwy los. Było tanie, ogólnie dostępne. I niezawodne w działaniu.*

*Polityka, nr 3*

Pięć win**ó**w proszę...!

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

Дэлегацыя польска-беларускай парламенцкай групы, якую ўзначальваў пасол Сейма **Тадэўш Славэцкі**, пабывала ў Менску на II Нацыянальным кангрэсе маладых палітыкаў і дзелавых людзей. У састаў дэлегацыі ўваходзіў, між іншым, пасол **Кшыштоф Вольфрам** з Беластока.

**Польска-беларускае пагадненне** ў галіне лесаводства падпісалі ў Варшаве міністр аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства **Станіслаў Жаліхоўскі** з польскага боку і міністр лясной гаспадаркі **Валянцін Зорын** — з беларускага. Заключаная дамова прадугледжвае абмен інфармацыяй наконт пажарнай бяспекі, метадаў змагання з лясными шкоднікамі ў прыгранічных лясах, каардынацыю паляўнічай гаспадаркі і развіцця турызму. На думку мін. Жаліхоўскага, пагадненне адкрывае перспектыву турыстычнага выкарыстання ўсяго Аўгустаўскага канала — на польскім і беларускім баках — а таксама ствараe магчымасць зрабіць даступнымі для наведвальнікаў абедзве часткі Белавежскай пушчы.

Славамір Галіцкі стаў з 1 лютага г.г. упаўнаважаным беластоцкага ваяводы па справах нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцей. У абсяг яго абавязкаў уключаны, між іншым, падтрымоўванне пастаянных кантактаў з усімі меншаснымі арганізацыямі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, распрацоўванне аналізаў аб сітуацыі меншасцей, дапамога ў ажыццяўленні ініцыятыў. Упаўнаважаны будзе таксама выступаць у якасці медыятара ў канфліктных справах.

**I Краёвая нарада дылераў суполкі „Пронар"** адбылася ў Нарве. Сярод гасцей былі прадстаўнікі Беларусі: **Генадзь Наркевіч** — з пасольства РБ і **Віктар Субоцін** — дырэктар Менскага трактарнага завода. Найлепшым дылерам (прадаўцом) аказаўся **Радаслаў Рыхтэр** з горада Бжэг Апольскага ваяводства, які ў мінулым годзе прадаў 74 трактары. Летась „Пронар" сабраў 2000 трактароў з імпартаваных з Беларусі гатовых вузлоў, а сёлета плануе выпусціць 6000 машын МТЗ-80 і МТЗ-82. Апрача мантажу трактароў суполка выпускае будаўнічыя матэрыялы, газіраваныя напоі і ўпакоўкі, прадае паліва ды вядзе гандлёвую дзейнасць з краінамі Садружнасці незалежных дзяржаў.

У Беластоку адбыліся акруговыя элімінацыі па прадметных алімпіядах для вучняў агульнаадукацыйных сярэдніх школ Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў. Пасля тэстаў і экзаменаў былі вылучаны пераможцы, якія будуць прадстаўляць наш рэгіён на цэнтральных элімінацыях у Варшаве. У іх ліку апынуліся таксама вучні Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім: **Іаанна Флёрчук** (біялогія) і **Тамаш Сахарчук** (веды аб Польшчы і сучасным свеце).

У канцы студзеня мытнікі з Кузніцы-Беластоцкай выявілі чарговую кантрабанду ікон. Гэтым разам у сценах купэ цягніка Санкт-Пецярбург—Варшава кантрабандысты схавалі 21 ікону і 3 металічныя крыжы. Ніхто з пасажыраў не прызнаўся да знойдзенага багажу. Два тыдні раней гэтыя ж мытнікі знайшлі ў падобных тайніках 68 ікон і 6 крыжоў.

**У Гайнаўцы** датла згарэў жылы дом. У выніку пажару памерла 71-гадовая адзінокая жыхарка гэтага дома. Пажарнікі мяркуюць, што прычынай пажару мог быць электрычны награвальнік. Як інфармуюць пажарнікі, студзень аказаўся вельмі трагічным месяцам. Ад пачатку гэтага года ў Беластоцкім ваяводстве ў пажарах або ў выніку атрыманых апёкаў памерла 12 чалавек, калі за ўвесь мінулы год у такіх абставінах загінула 20 асоб.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

- Большасць праваслаўных жыхароў Беласточчыны адчувае сябе палякамі — размова з прафесарам Анджэем Садоўскім.
- Славамір Галіцкі, упаўнаважаны ваяводы п/с нацыянальных меншасцей выказваецца пра планы сваёй дзейнасці.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Новая пасада

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Абрамовіч накіраваў заяву старшыні Вярхоўнага Савета з просьбай вызваліць яго ад займаемай пасады ў сувязі з прызначэннем яго на пост намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. Невыключана, што сферай дзейнасці Аляксандра Абрамовіча на новай пасадзе стануць толькі юрыдычныя пытанні, звязаныя з заканатворчасцю, узаемаадносінамі прэзідэнцкай вертыкалі з Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным Судом.

### 5-годдзе БГАКЦ

Сваё пяцігоддзе адзначыў Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр. Сёння ў цэнтр уваходзіць ліцэй, выпускнікі якога з поспехам набываюць веды ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі, Нарвегіі, Польшчы і Кітая. Пры цэнтры таксама створаны свае выдавецтва і тэлестудыя. Павіншаваць ліцэістаў з юбілеем прыйшлі многія вядомыя на Беларусі асобы.

### Кангрэс маладых палітыкаў

Канструктыўны дыялог паміж палітычнымі лідэрамі, структурамі дзяржаўнай улады і грамадства — такая асноўная задача II Нацыянальнага кангрэса маладых палітыкаў і дзелавых людзей „Беларусь на парозе двух стагоддзяў і двух тысячагоддзяў", які прайшоў у Менску. Ён арганізаваны Беларускай асацыяцыяй маладых палітыкаў пры садзейнічанні Фонду Фрыдрыха Эберта і Менскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра. Сярод удзельнікаў кангрэса — прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, маладыя бізнесмены Беларусі, а таксама парламентарыі з дваццаці замежных краін. Падчас круглага стала, які праходзіў у рамках кангрэса, дарадца прэзідэнта РБ Сяргей Посахаў паведаміў, што магчыма ў хуткім часе беларускі народ чакае яшчэ адзін рэферэндум, на якім будзе вынесена пытанне аб канстытуцыйным замацаванні вынікаў апошняга майскага рэферэндуму, што адбыўся ў мінулым годзе.

### Міністэрскі жэст

На нарадзе ў Кабінеце Міністраў па выніках працы прамысловасці і паліва-энергетычнага комплексу Беларусі за мінулы год прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які ўдзельнічаў у ёй, заявіў міністру прамысловасці Уладзіміру Куранкову, што здымае яго з працы. Матыў — развал прамысловасці рэспублікі. Пасля слоў прэзідэнта Куранкоў пакінуў залу, у якой праходзіла нарада.

### Дэмаграфічны спад

Насельніцтва Рэспублікі Беларусь за 1995 год паменшылася амаль на 30 тысяч чалавек. Яшчэ больш пераканаўчых лічбы сустракаюцца ў некаторых рэгіёнах. Напрыклад, у Капыльскім раёне летась памерлі два з паловай разы больш чалавек, чым нарадзіліся і гэта пры ўмове, што тут не было масавых эпідэмій ці стыхійных бедстваў. Проста насельніцтва пастулова старэе, а маладыя сем'і заводзяць, як правіла, толькі адно дзіця. Разам з тым у Капыльскім раёне ёсць і прыемная тэндэнцыя: колькасць шлюбаў тут вырасла на 7, а скасаванне шлюбаў паменшылася на 20 працэнтаў.

### Дамашні храм

На падвор'і праваслаўнага хрысціяніна Рыгора Бондзіча ў вёсцы Ганчары Пінскага раёна пабудаваны першы на Палессі сямейны храм, створаны рукамі самога сельскага майстра. Нягледзячы на невялікія памеры, дамашняя царква Успення Божай Маці служыць малітоўным домам для ўсіх вернікаў акругі. За старанпасць у служэнні Богу Рыгор Бондзіч нядаўна ўзнагароджаны ордэнам Сергія Раданежскага III ступені. Сёлета ў дамашняй Успенскай царкве спраўлены абрад хрышчэння вады Гасподняй.

### Памяці Юрыя Авяр'янава

Ушанаваць памяць свайго калегі і таварыша Юрыя Авяр'янава калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы сабраўся ў касцёле св. Роха, дзе на дзевяты дзень пасля пахавання была адслужана паніхіда за супакой душы гэтага таленавітага артыста. Памяці Юрыя Авяр'янава купалаўцы прысвячаюць першыя ў гэтым годзе спектаклі „Ідылія" і „Тутэйшыя", дзе так бліскуча іграў акцёр.

### Да юбілею Івана Шамякіна

Юбілею народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна была прысвечана рэтраспектыва фільмаў паводле яго твораў. 26 студзеня сталічны кінатэатр „Партызан" арганізаваў дабрачынны сеанс, на якім дэманстраваўся фільм Ігара Дабралюбава „Эпілог" па сцэнарыі Івана Шамякіна. Перад сеансам адбылася сустрэча са здымачнай групай карціны. Эстафету рэтраспектывы, прысвечаную 75-годдзю Івана Шамякіна прынялі і іншыя кінатэатры рэспублікі.

# ШТО БУДЗЕ З ГАСПАДАРКАМІ?

16 студзеня г.г. гасцямі Ваяводскай управы ў Беластоку былі віцэ-міністр сельскай гаспадаркі **Катажына Дучкоўска-Малыш** і дырэктар Агенцтва па структурных пераўтварэннях і мадэрнізацыі ў сельскай гаспадарцы **Генрык Антосяк**. Галоўным пытаннем нарады, якая правялася з іхнім удзелам, было ажыццяўленне праграмы шматграннага развіцця сельскай гаспадаркі.

Польшча рыхтуецца да інтэграцыі з Еўрапейскай Уніяй, а гэта, перш за ўсё, патрабуе дастасавання ўсёй гаспадаркі да заходнееўрапейскіх нормаў. Найцяжэй гэтае дастасаванне адбываецца ў сельскай гаспадарцы. З увагі на сваю інфраструктуру, якую мерыцца ў такіх паказчыках як забеспячэнне ў электрычнасць, водаправоды, дарогі і тэлефонную сетку, вясковая тэрыторыя ў Польшчы мае характар перыферыі. Сёння ўжо нечага затойваць, — сказала віцэ-міністр, — з увагі на сельскую інфраструктуру і ўзровень адукацыі гаспадароў Польшча дзеліцца на А і Б, а мяжа праходзіць па Вісле. Не абазначае гэта, што бяднейшыя ваяводствы горш спраўляюцца ў гэтым дастасавальным перыядзе. З пункту гледжання Варшавы якраз бяднейшыя ваяводствы належаць да самых актыўных — Беласточчына займае відное месца. Тым фактарам, які падштурхнуў вёску да развіцця, была, на думку віцэ-міністр, бяда. У выніку ўзросту беспрацоўя пасля 90-га года і спаду запатрабавання на сельскія прадукты адзіным шанцам для пажылых гаспадароў стала рэнта ад дзяржавы, якая вымушала аднак перадачу гаспадаркі для спадкаемцы ці наступніка. Зямля стала пераходзіць у рукі маладых гаспадароў, што, вядома, не вырашае яшчэ асноўных пытанняў вёскі. Даходы бюджэтнай сферы ў горадзе, калі супаставіць іх узросту коштаў жыцця, кватэраў і энергіі, не павялічацца. Ізноў жа, — сказала віцэ-міністр, — нечага затойваць, але людзі ў горадзе сваю ашчаднасць будуць праводзіць на жываце. Пытанне, як танна прадукаваць і дзе прадаваць сельскія прадукты — будзе галоўным пытаннем гаспадароў.

Адна мадэрнізацыя праблемаў вёскі не вырашыць, бо яна выпіхае з вёскі непатрэбную рабочую сілу. Працу трэба, на думку Міністэрства сельскай гаспадаркі, знайсці сабе на месцы. Гэтаму мае служыць праграма шматграннага развіцця сельскай гаспадаркі, і заключаецца яна ў падтрымцы, якую дзяржава дае ініцыятывам накіраваным на пабудову сеткі сельскагаспадарчых паслуг ці проста ініцыятывам, у выніку якіх на вёсцы ўзнікаюць новыя месцы працы. Трэба аднак зразумець, — дадала віцэ-міністр, — што Міністэрства сельскай гаспадаркі падтрымлівае гаспадарчыя ініцыятывы, а не аблягчае бяду. Крэдыты Міністэрства сельскай гаспадаркі гэта шанц, але не для ўсіх.

Тэму крэдытаў развіў Генрык Антосяк, кажучы, што ён нікога не намаўляе браць іх, бо ўзяўшы раз гэты крэдыт нельга ўжо задумоўвацца над яго сэнсам — трэба шпарка прыступіць да ажыццяўлення канкрэтнага гаспадарчага мерапрыемства. Агенцтва па структурных пераўтварэннях і мадэрнізацыі ў сельскай гаспадарцы падтрымлівае наступныя галіны: вытворчасць і перапрацоўка малака, гадоўля авечак і коз, вытворчасць ялавічыны. Прадугледжваюцца таксама крэдыты на куплю зямлі ці цэлых гаспадарак (з фонду Агенцтва сельскай маёмасці). Агенцтва па структурных пераўтварэннях мае таксама дафінансоўваць да 50% коштаў пабудовы дарог у гмінах; 10% кошту пабудовы павінны фінансаваць самі жыхары. Праект адпаведнага закону актуальна распрацоўваецца і мае быць прыняты на зломе лютага і сакавіка.

Крэдыты для сельскай гаспадаркі ўлічваюць спецыфіку гэтага сектара і яны таннейшыя. На практыцы таннасць гэтая ажыццяўляецца такім чынам, што Агенцтва па структурных пераўтварэннях даплачвае банкам. У 1995 годзе даплаты гэтыя склалі суму 1,7 більёна старых злотаў.

Каб пакарыстацца крэдытамі Агенцтва па структурных пераўтварэннях і мадэрнізацыі ў сельскай гаспадарцы, трэба падрыхтаваць праект гаспадарчага мерапрыемства (г.зв. бізнесплан). Затым праект гэты прадстаўляецца для ацэнкі ў асяродку сельскагаспадарчых парад і праз яго накіроўваецца ў банк. Банкі даюць крэдыты са сваіх сродкаў і на сваю адказнасць. Адпаведны асяродак сельскагаспадарчых парад у Беластоку знаходзіцца на вуліцы Барсучай 2, тэл. 413 584.

**Аляксандр Максімюк**

# СЛЁЗЫ НЕ ВЫСАХЛІ

У нядзелю 28 студзеня ў Васкрасенскай царкве ў Бельску айцец благачынны Юры Такарэўскі адслужыў паніхіду па памардаваных каля Пухал-Старых вазаках. Сёлета прайшло якраз пяцьдзесят гадоў з таго бандыцкага ўчынку, якога дапусціліся на мірных беларускіх сялянах „ваякі” Бурага.

— Сярод нас сямейнікі забітых, — сказаў бацюшка. — Памолімся разам з імі за ўпакой душ нявінных ахвяр і за тое, каб больш ніколі не вярнуўся той нялюдскі час.

Няшмат народу сабралася ў царкве. Хто не дабраўся ў Бельск з-за марозу, хто паехаў на вёску, каб разам з блізкімі памянуць трагічна загінуўшых родных.

— А хто ж будзе даглядаць іхнюю магілу ў Кліхах? — гаворыць адна жанчына. — Пакуль мы жывем, то хаця раз у год паедзем туды. Ноймем аўтобус, бацюшку з сабою возьмем, памолімся над супольнай магілаю і на месцы злачынства. А як нас не стане, то не будзе каму там і малітву згаварыць.

Таму сем'і вазакоў стараюцца эксгумаваць іхнія астанкі і пахаваць у Бельску.

— Тут і бацюшка на Провады да магілы падыдзе, і так сюд-туд хтосьці зойдзе, прыбярэ, свечку запаліць. У Бельск і з навакольных вёсак выгадна дабірацца. Тут то ўжо яны будуць у сябе.

Улады Бельска прыхіліліся да гэтай просьбы, вызначылі месца будучага пахавання. Восенню мінулага года на тым месцы быў узведзены крыж. Вядуцца цяпер старанні аб дазволе на эксгумацыю.

Калі святар пералічыў імёны загінуўшых, а хор спяваў „Упакой Госпадзе ўсопшых раб Тваіх”, па намерзлых шчоках сірот цяклі слёзы. Колькі ні плакалі па сваіх блізкіх за пяцьдзесят гадоў, а ўсё-роўна ўсіх слёз не выплакалі. І не высахлі яны. Як не згас у сэрцы боль і не перастала шчымець пытанне: за што?

**Мікола Ваўранюк**

## Адгалоскі

### Ізноў Вярсток

У 4-ым нумары „Нівы” ад 25 студзеня г.г. Мікола Ваўранюк у матэрыяле пра асвету і бяспеку ў гміне Дубічы-Царкоўныя ўжывае назву **Вярсток** (*у Вярстку*) для вёскі, якой арыгінальная назва гучыць **Вэрсток** (адпаведна: *у Вэрстоку*). Чарговы ўжо раз на старонках „Нівы” (тычыцца гэта і іншых беларускіх выданняў у Польшчы) ужываюцца формы назваў, якія супярэчаць таму, чаго „Ніва” сама дабівалася і дабіваецца — захавання арыгінальных беларускіх назваў на Беласточчыне. На гэту праблему і яе глебу я звяртаў ужо ўвагу на старонках Вашага тыднёвіка (н-р 30 ад 23.07.1995 г.). Аднак жа, ці па абыякавасці да таго пытання, ці па свядомай лініі надалей „абеларушваюцца” назвы Падляшша.

Тым часам я, як беларус, але падляшук, перш за ўсё жадаю, каб родная мне газета больш увагі прыдавала роднай мове большасці чытачоў „Нівы”. Бо хіба не памыляюся, што найбольш чытачоў „Нівы” — між Бугам і Нарвою. А родная мова для чалавека ёсць перш за ўсё тая, якую ён выносіць з роднага дому, якою карысталіся яго дзяды і прадзеды. Толькі пасля ёсць мова літаратурная...

Перастаньце ўрэшце пісаць „Вярсток”, бо калісьці скажуць яшчэ беларусам, што самі не ведаюць чаго хочуць. Дык жа палякі, выходзіць, лепш пра нашы назвы дбаюць. На ўказальніку пры ўездзе ў вёску напісана: „Werstok”, дакладна так, як яе назву вымаўляюць мясцовыя жыхары.

**Мікола Сахарэвіч**

# Пехатою ў Беларусь!

Жыхары прыгранічных вёсак Чаромхаўскай гміны маюць многа сваякоў у прыгранічных вёсках Беларусі. Раздзяліла іх дзяржаўная граніца. Быў закон, які дазваляў жыхарам тых вёсак перасякаць граніцу за дазволам пагранічных службаў абодвух дзяржаў у неспадзяваных выпадках як шлюб, хрысціны ці смерць нейкай блізкай асобы. Патрэбная была службовая тэлеграма таму, хто меў праходзіць граніцу, пасведчаная кампетэнтнымі органамі. Многія карысталіся гэтым законам. У канцы васьмідзесятых гадоў увялі дадатковы закон, які дазваляў жыхарам прыгранічных вёсак перасякаць граніцу на Усіх Святых і Вялікдзень, калі на могілках ушаноўваецца памяць памерлых. У такіх выпадках абмен назначанай колькасці чалавек адбываўся на аснове складзеных раней пагранічнікамі спіскаў.

У 1993 годзе быў адкрыты дарожны пераход Полаўцы—Пяшчатка, якім можна было карыстацца польскім і беларускім турыстам на легкавых аўтамабілях. Хапіла мець важны пашпарт і ваўчар. У снежні 1995 г. быў уведзены яшчэ іншы закон, які дазваляе зараз перасякаць граніцу турыстам пешшу, на веласіпедах і матацыклах.

У такіх выпадках трэба мець ваўчар, важны пашпарт і згуртавацца (у не меншую групу як 15—20 чалавек) на граніцы каля шлагбаўма.

Вынік таго закону ўжо бачны ў Чаромсе. На вуліцах пасёлка гуляюць беларускія турысты на веласіпедах.

**Уладзімір Сідарук**

# Хто адкажа?

Курэнне, як і алкагалізм, мае сваіх аматараў і праціўнікаў. Я належу да гэтых апошніх. Аб шкоднасці курэння я ўжо пісаў у сямідзесятых гадах на старонках „Нівы” ў публікацыі „Закон і культура курэння”. У гэтым матэрыяле я кранаў тады справу курэння папярос у цягніках.

Хаця з таго часу прайшло каля дваццаці гадоў і змяніліся законы на дзяржаўнай чыгунцы, праблема надалей застаецца актуальнай. Даўней кандуктар мог аштрафаваць пасажыра, які курыў папяросу ў купэ для некурачых. Чыгуначная вярхушка закон адмяніла і абслуга цягніка абавязана звярнуць увагу парушальніку закону, але не можа яго пакараць. Забаронена! Відаць, адказныя чыноўнікі ПКП вырашылі, што сваіх кліентаў трэба выхоўваць не пакараннем, а павучаннем!

Вядома, што такі закон на руку курцам. Але чаму мы, некурачыя, вымушаны сварыцца з несумленнымі пасажырамі, якія кураць у вагоне „для некурачых” і нюхаць смурод нікаціну?!

Як чалавек і як мужчына, магу зразумець курцоў. Сам калісь курыў. Аднак не магу зразумець некаторыя чыгуначныя законы. З аднаго боку гаворыцца, што ў цягніках, якія курсіруюць на дыстанцыі да 200 км (раней было 100 км) няма вагонаў „для курачых” і забараняецца курыць, а з другога боку ўключаецца ў састаў вагоны на такім жа маршруце з попельніцамі. І так, напрыклад, у двухпавярховых цягніках, якія курсіруюць па маршруце Чаромха—Беласток і Гайнаўка—Седльцы няма ніводнага купэ для курачых. Але ёсць адзін састаў пасажырскага поезда, які курсіруе па тых жа маршрутах і ў вагонах ёсць купэ з попельніцамі.

Я аднойчы звярнуў увагу аднаму сябру-чыгуначніку ў такім цягніку, а ён мне кажа, што гэта купэ для курачых. Калі я гляну, дык убачыў, што попельніцы не былі забраныя і не адменена таблічка з інфармацыяй аб курэнні.

Аднойчы кіраўнік поезда сказаў мне, што не дазваляецца курыць у такім цягніку, хоць у купэ знаходзяцца попельніцы.

Каму верыць?

А мо ўсё ж такі Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве вырашыць гэту праблему? У кампетэнцыі дзяржаўнай чыгункі належыць дбайнасць пра сваіх кліентаў. За гэта мы плацім грошы! З другога боку, гледзячы па-людску, чаму ж не ўключыць у кожны састаў цягніка хоць адзін вагон для курачых?

Ці ж не варта над гэтым падумаць?

**Уладзімір Сідарук**

**Словы спачування з прычыны смерці**

**МАРЫЛІ БАЗЫЛЮК-САСНЮК**

**мужу і дзецям, бацькам, сям'і выказвае Беларускі Саюз у Польскай Рэчы Паспалітай.**

**У сувязі з сумным здарэннем — смерцю МАРЫЛІ БАЗЫЛЮК настаўніцы беларускай мовы сардэчныя словы спачування сям'і выказвае Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку.**

**Пакінула нас МАРЫЛЬКА БАЗЫЛЮК, салавейка вандровак па Бацькаўшчыне. Да сустрэч на райскіх шляхах! Словы жалю і спачування для Тваіх родных — мужа, дзетак, бацькоў, брата — ад БАСаўцаў.**

**Мужу і дзеткам пакутна памерлай**

**МАРЫЛІ БАЗЫЛЮК**

**спачуваюць у горы сябры з „Белавежы”.**

# Гэта будзе год юбілею



*Ежы Бісяк — дырэктар Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва.*

*Працяг са стар. 1*

*гайнаўскага Беларускага музея. Вы надоечы ўдзельнічалі ў нарадзе, прысвечанай гэтай праблеме. Ці знойдзена было вырашэнне?*

— Нарэшце нешта пачынае крышталізавацца. Доўгія гады стаялі два пытанні: 1) як закончыць пабудову, калі бюджэтны закон не дазваляе фінансаваць падобныя інвестыцыі і 2) у якой форме мае існаваць Музей пасля заканчэння пабудовы. Ізноў, не можна было б фінансаваць яго з дзяржаўнага бюджэту як грамадскую ўстанову.

Пасля некалькіх спробаў, у сакавіку мінулага года, падчас нарады ў Гайнаўцы з удзелам бурмістра горада, прадстаўнікоў міністэрства, ваяводскай управы, БГКТ і Грамадскага камітэта пабудовы Музея, была арганізавана надзейная формула вырашэння. Меліся быць падрыхтаваны канкрэтныя планы на працягу двух-трох месяцаў, каб ваявода мог гэта ўвесці ў праект бюджэту на 1996 г. На жаль, гэты час быў змарнаваны. Толькі цяпер, падчас сустрэчы ў Беластоку, удалося атрымаць пацвярджэнне, што такая формула будзе апрацаваная.

*— У чым заключаецца гэтая формула?*

— Арганізатарам Музея быў бы беластоцкі ваявода на аснове пагаднення з БГКТ, за якім замацаваная праваздольнасць, і ГКПМ як трэцім бокам. Музей быў бы дзяржаўны, прычым уласнасцю беларусаў засталіся б як будынак, так і сабраныя дагэтуль калекцыі. Аб'ект быў бы ўдзелены дзяржаве бясплатна (г.зн. ваявода не плаціў бы арэнды), а калекцыі сталі б дэпазітам. Такім чынам, з бюджэту ваяводы пакрываліся б кошты штатаў, эксплуатацыі і т.п. Створаны рабочы калектыў пад кіраўніцтвам дырэктара Аддзела культуры Ваяводскай управы Казімежа Дэркоўскага з удзелам прадстаўнікоў беларусаў і дырэктарам Акруговага музея (які прадстаўляе прафесійнае асяроддзе).

*— Якія канкрэтныя задачы стаяць перад гэтым рабочым калектывам?*

— Калектыў мае падрыхтаваць праект пагаднення да паловы лютага. Затым павінны быць апрацаваны дэталёвы статут, кошт, штаты і ўсё, што звязана з праграмным бокам. Пасля кансультацый з нашым міністэрствам, будуць прыняты меры па ажыццяўленні праекта.

Музей не можа ўзнікнуць без сваіх калекцый, толькі з дэпазітаў. Тут ёсць канцэпцыя, каб перанесці ў Гайнаўку беларускую калекцыю з Цеханоўца, як дзяржаўны ўклад. Беластоцкі ваявода павінен выступіць у гэтай справе да ломжынскага ваяводы. Такім чынам узнікла б патрэбная музейная частка. Наогул, калі ідзе пра чыста музейныя справы, усіх чакае яшчэ вялікая праца. Сам музей сапраўды яшчэ не пабудаваны, а сабранай калекцыі хопіць адно на этнаграфічную выстаўку. Прычым самая экспазіцыя гэта толькі частка задач кожнага музея. Да таго даходзіць апрацоўка калекцыі, дакументацыя, публікацыі. Дзеля таго трэба сабраць кадры з адпаведнай падрыхтоўкай.

*— А хто будзе назначаць дырэктара Музея?*

— Дырэктара назначае ваявода ва ўзгадненні з міністрам культуры і мастацтва. Відома, як ваявода, так і міністр будуць кансультаваць кандыдатуры з беларускім і прафесійным асяроддзем. Гэта вынікае з адпаведнага закону. Згодна з імі, дырэктар будзе адказваць за дзейнасць і стан музея. У далейшым прадугледжваецца стварэнне Праграмнай рады, якая будзе мець свой голас у вызначэнні накірункаў дзейнасці Музея.

*— Такім чынам, грамадскі чыннік не будзе мець вырашальнага голасу ў справах музея.*

— Я разумею такую боязь з боку беларусаў, помнячы пра лёс папярэдняга беларускага музея. Тым не менш, не можам кіравацца толькі тым, што здарылася. Хачу падкрэсліць, што гэтыя прапановы не вынікаюць з нейкага намагання ўлад перанясці Музей на дзяржаўную ўласнасць. Гэта прапанова, што зрабіць з калосам, які ўтрымаць не пад сілу ніякай беларускай арганізацыі. А іншым чынам дзяржава ўтрымоўваць музей згодна з законам не можа. Дарэчы, ваявода толькі тады прыйме музей, калі атрымае дадатковыя сродкі з дзяржаўнага бюджэту. Ці гэта будзе магчыма сёлета, цяжка сказаць, бо бюджэт на 1996 г. ужо зацверджаны. Магчыма, удасца дастаць грошы з рэзерву Рады Міністраў, але гэта няпэўная справа. Таму я і сказаў, што быў змарнаваны час.

*— Ці дзяржава пяройме ўвесь гайнаўскі аб'ект?*

— Не, толькі музейную частку. Будынак, у якім знаходзіцца гастранамічная частка, гатэль, кіназала, застанецца грамадскай уласнасцю. У адносінах да таго аб'екта ёсць шанц, што ён будзе зарабляць на сябе.

*— Ці гэта мае быць Цэнтр беларускай культуры?*

— Пра гэта не было размовы. Сярод беларусаў няма згоды, дзе такі цэнтр павінен быць. Частка паказвае на Беласток, як найлепшае месца дзеля стварэння такога цэнтра. Справа надалей адкрытая. Для нас было б вельмі важнае, каб кожнае нацыянальнае асяроддзе само акрэсліла, што для яго самае важнае ў культуры на найбліжэйшыя гады. Так зрабілі, напрыклад, літоўцы. На жаль, у беларускім асяроддзі да такой дыскусіі не ўдалося давесці. А я не хацеў бы адміністрацыйным чынам прымаць рашэнні. Мы лічым лепшым адказваць на ініцыятывы, якія ўзгоднена выказваюць самі нацыянальныя асяроддзі.

*— Чаго можам чакаць сёлета ўдзейнасці Бюро?*

— Пабачым, які будзе бюджэт. Думаю, не будзе кепска. Праўдападобна ўдасца забяспечыць усе найважнейшыя патрэбы нацыянальных меншасцей. Гэта будзе год юбілею 40-годдзя БГКТ, арганізацыі, якая найдаўжэй дзейнічае ў асяроддзі. Праца людзей, якія столькі зрабілі на працягу гэтых сарака гадоў вельмі важная. З саракавым юбілеем вітаю таксама ўсіх чытачоў „Нівы".

*— Дзякую за размову*

**Размаўляў Алег Латышонак**
**Фота Ады Чачугі**

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

### Чатыры гады на Усходзе

Ва ўсім гэтым характэрнае было тое, што ніхто з майго боку, з тадышніх калег па рабоце, ніводзін з жыхароў Старога Сяла не выступіў у маёй справе.

Жонка час ад часу, не раз пехатою, у мяцеліцу ішла ў Вільню, каб нечага пра мяне даведацца або нешта падаць. Дзеці з яе класа заставаліся ў школе самі і так сядзелі ціха, што кіраўніцтва школы не раз і не ведала, што няма настаўніцы. Дзеці спачувалі сваёй выхавацельцы і такім чынам выказвалі ёй сваю падтрымку. Падчас адсутнасці настаўніцы дзеці вучыліся самастойна і калі вясной прыйшлі экзамены, вынікі атрымаліся надта добрыя. Пазней гаварылі, што нават сам Грыцай быў здзіўлены высокім узроўнем ведаў. А тады быў ён яшчэ больш важным чыноўнікам, паколькі ўдзельнічаў у школьных экзаменах.

А вось што аб усім гэтым пісаў тадышні стражнік парадку і законнасці, пракурор Віленскай вобласці, нехта Г. Токараў у 43 нумары газеты „Молодёжь Литвы" ад 1 сакавіка 1953 г. у артыкуле „Быть бдительным всегда и всюду". Двойчы спасылаючыся на Сталіна і іншых класікаў марксізму-ленінізму, пракурор Токараў у доўгіх уводзінах расказваў, што ад пачатку існавання Савецкага Саюза з капіталістычнага боку ў краіну рабочых і сялян пранікалі ўсякай масці шкоднікі, дыверсанты, шпіёны, тэрарысты і т.п. Далей ён даказваў, што ў ролі арганізатара шпіёнска-шкодніцкай работы выступіў амерыканскі імперыялізм, агенты якога сваю падрыўную дзейнасць накіроўваюць на важнейшыя ўчасткі сацыялістычнага будаўніцтва. У сувязі з гэтым прызываў ён грамадзян быць пільнымі, распазнаваць ворагаў і выяўляць іх. Пасля такой падрыхтоўкі аўтар адкрыта б'е ў цэль. Вось у чым Токараў абвінаваціў мяне:

*Только в результате потери политической бдительности со стороны работников Министерства просвещения Литовской ССР презренные враги трудящихся — буржуазные националисты кое-где пролезли на работу в наши советские школы и делали своё грязное дело. Например, некий Ярмолович В. А. в 1937—1938 гг. состоял в националистической организации, был редактором журнала, в котором помещал статьи антисоветского, клеветнического характера. В период гитлеровской оккупации — с 1942 по 1944 г. Ярмолович вёл активную контрреволюционную пропаганду, распространял среди населения антисоветскую литературу. Немецко-фашистские власти назначили Ярмоловича мировым судьёй. Выполняя эту роль, Ярмолович жестоко расправлялся с патриотами нашей Родины. С приходом советской власти Ярмолович сумел замаскировать своё предательское лицо. Он устроился учителем, а затем — директором семилетней школы Ново-Вилейского района, где проводил среди учащихся вражескую работу.*

*Или такой пример: сын кулака Глодас Т. И. (...)*

*Благодаря бдительности и патриотизму школьников, контрреволюционеры Ярмолович и Глодас разоблачены, арестованы и преданы суду.*

Вось якая ў яго праўда, законнасць і справядлівасць.

* * *

Вырашыў я абскардзіць судовы прыгавор і папрасіў даць мне паперы напісаць апеляцыю. Далі адну картку. Напісаў і перадаў. На гэтым усё і скончылася.

Пасля некалькіх дзён знаходжання ў падвалах МГБ перавезлі мяне на Лукішкі. У камеры было некалькі чалавек, самая моладзь. У суседняй камеры пачулі, што прывезлі некага новага, і зараз яя пастукалі з пытаннем, хто гэта такі. Адстукалі маё прозвішча. Зараз потым перадалі мне, што побач, у наступнай камеры сядзіць мой знаёмы, магістр Марыян Пецюкевіч.

Ужо на Лукішках высветліў я тайну дзіцячага плачу ў засценках МГБ. Аказалася, што ў арыштаванай групе студэнтаў была цяжарная студэнтка, якая ў падвале нарадзіла дзіця і гадавала яго. У турме было лягчэй, чым у МГБ, бо можна было спаць і начамі не мучылі следствам. Але па нейкім часе вывезлі мяне з Лукішак у перасылачную турму, дзе ў камеры трымалі па некалькі дзесяткаў чалавек. Амаль усе — літоўцы. У камеры быў свой рэгулямін. Дзень пачынаўся і канчаўся малітвай і спяваннем гімна „Летува тевыне мусу" (Літва — наша бацькаўшчына). Тут нам аб'явілі аб смерці Сталіна, а зала гэтую вестку прыняла крыкам палёгкі.

У пачатку сакавіка, здаецца якраз на Казюка, пагрузілі нас у таварныя вагоны. Цягнік накіраваўся на ўсход.

* * *

На Усходзе прабыў я чатыры гады. Камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР перагледзела маю справу і распарадзілася звольніць мяне з лагера. Не вярнуўся я тады ў Старое Сяло, а ў Кавальчукі. Там працавала Аўгіння.

І што было мне рабіць далей? Хаця я быў свайго роду рэабілітаваны, але з мінулага я ведаў, што тут я буду грамадзянінам горшай катэгорыі і ўвесь час буду знаходзіцца пад вядомай „апекай". Памятаў я таксама, як цяжка было дастаць работу. Рашыў я нідзе не хадзіць, нікога не прасіць. Меркаваў я, што лепш выехаць, чым быць парабкам на сваім або рабіць чужую работу на сваёй зямлі сярод сваіх. Ізноў прымала чужая зямля.

* * *

Калі мяне арыштавалі, Аўгіння засталася з шасцімесячным Андрэем. Мацейка ў тым часе быў ужо завучам у школе. Я разлічваў, што ён часам хаця спагадае маёй сям'і або дапаможа хаця б добрым словам. Жылі мы з Мацейкамі добра. Аказалася, што я памыляўся. Ён зараз жа пасля майго арышту пачаў Аўгінні рабіць адны прыкрасці. Значыць, хаця і свой чалавек, але для нейкай сваёй выгады ўвесь свой век прадаваў сваіх і то ўсім. І што з гэтага? Я, хаця многа перажыў, многа перайшоў, аднак вярнуўся. Мацейкі ў жывых я ўжо не спаткаў.

У тым часе захварэла таксама Надзя Будзіловіч. Так ёй спух язык, што не змяшчаўся ў роце. Памерла ў Шчучынскім шпіталі.

Калі я вярнуўся, Андрэю было ўжо амаль пяць гадоў. Невялікі хлопчык глядзеў на мяне як на чужога.

*(заканчэнне будзе)*

*Віктар Ярмалковіч*

# З дзённікаў С. Яновіча

**1994 — 03 — 27.**

Добры літаратурны вечар у Менску і нядобра ў мяне са здароўем (боль жывата, агульная слабасць). Вярнуўшыся адтуль учора, позняй раніцай (субота), лячуся сном, зеленню, цытрусамі, і... цішынёю. Не дзіва, зрэшты: дзве ночы ў рэйсавым аўтобусе Беласток — Мінск, а паміж імі адна, кароткая, на кватэры Ксяндзова (?), музыка *Уліса*. Даводзяць да стану галюцынацыяў тлумныя гутаркі ў духу маладых кліентаў багатага дзядзькі. Сутнасць іх не столькі мерытарычна-літаратурная, колькі менавіта накіраваная на атрыманне нейкага запрашэння ў Польшчу. Я іх разумею і не злуюся, але мае магчымасці ў гэтым невялікія.

Міра як арганізатар усяго з'явілася ў Менску тыднем раней, справядліва здагадаўшыся, што тыя саветы анічога не зрабілі ў дамоўленых загадзя справах. Усе кошты-выдаткі на імпрэзу ўзяла яна на сябе, маючы ўспамажэнне ад Макса ( — продаж яго *Уліса*) і ад мяне ( — за тры апошнія кніжкі). Яшчэ, можа, ад каго? Сустрэла мяне ў чацвярговае світанне на аўтобусным вакзале і завезла адпачыць у кватэры Шніпа і Рублеўскай. Горад да таго ж запушчаны, што Беласток здаецца ўзорам парадку ды чысціні (вулічны асфальт, бы пасля бамбёжкі). Тандэтнае савецкае будаўніцтва — з крывымі сценамі ды няшчыльнымі вокнамі, фанернымі дзвярыма, а ў туалеты жах уваходзіць.

І хоць вечар меў назву *Маладая Белавежа*, Міра настаяла на маім прыездзе, каб прыманучь на маё імя трохі выдатнасцяў (прыйшлі: Брыль — ён ужо акадэмік; Разанаў, Гілевіч, Ліс, Казбярук; амбасадар Сянько з'явіўся — яго пераводзяць у Лондан; Марачкін, Кулік, і інш.). Шматлюднасць была памяркоўная, сцены Дома Літаратара не трашчалі; падвяла інфармацыя, адсутнасць неабходнай прапаганды. Але, можа, і лепей, што так здарылася... З маладых прыехала жменька; акрамя Міры, Макс, Стахвюк. (...) Адчыніў сустрэчу зморany Гардзіцкі, пасля чаго нейкі дзіцячы хорык спяваў песні на словы Міры; свае рэфлексіі пра *Белавежу* і *Уліса* распавёў Макс, а потым я яго дапоўніў фактаграфічнымі дэталямі, прачытаўшы дзеля паўзаў *Баль нуварышаў* і *Рускі базар* (публіка лягала ад рогату!). Гаварыў Гніламёдаў. Разанаў канцэнтраваўся на творчасці Артымовічанкі (а сама Надзя, як Надзя: узяла і не прыехала). Нашы кніжкі проста расхоплівалі, тым болей, што прадавалі танна.

Паслейшы Мірын банкет для сотні асобаў адбываўся ў савецкім стылі: мноства выпіўкі, няшмат пасуды і закусі. Мала што памятаю з яго — хаос гутарак, ананімных знаёмстваў, гармідар і паранойя! — Гніламёдаў трапна заўважыў: *Пожня* Петручука знакамітая; маёй прозе бракуе *вады*, занадта густа пісаная.

Гэта ў чацвер. А ў пятніцу — на выставе *Пагоні* ў Палацы Мастацтваў. Элітарны натоўп, сотні і сотні; настрой барацьбы, дынамічная прамова Пазьняка, і інш. Крыху з Хадыкам, каб перадаць сотню тысяч на *Свабоду*; з Грыцкевічам, з Кулікам, з Трыгубовічыхай і Ларысай Верас (інтэрв'ю ў Мюнхен), момант з Пазьняком, непатрэбна доўгія размовы з нейкімі ашаломнікамі па чарзе; з элегантнымі Дзягілевымі і з дачкою Кляшторнага... Так і не было калі глядзець саму выставу. У іх так заўсёды. Але ў гэты раз я ўсё ж даволі добра абараніў свой час: візітаваў Нацыянальную Бібліятэку, а назаўтра спакойна пабыў у дырэкторкі таго Архіву-Музею. Там і там апрацоўваюць мае фонды. Марудна, але іначай нельга. Культурная жанчына. (...)

**1994 — 04 — 10.**

Можа і патрэбна было паехаць на тры дні ў тыя Сэйны, на сесію ў асяродку *Pogranicze*. Усё пра нацыянальных меншасці, на прыкладзе Трансільваніі і літоўцаў. Даўгу мяне да белай гарачкі дарадца румынскай амбасады Іван, выступіўшы як стопрацэнтны камісарскі махляр! Потым ён як бы прабачаўся перада мною, у нейкі перапынак... Затое не маглі надзякавацца мне — дыскрэцыёзна — мадзьяры на чале з Енгельмаерам (ён — амбасадар і на Беларусь). Дзякавалі і летувісы.

Наогул выступаў я часта, не могучы сцярпець непісьменнай трактоўкі спецыфікі нац. менш. як такіх! Людкове мала чытаюць, імправізуюць. Асабліва страшна, калі робяць гэта палітыкі, у руках якіх вырашэнні. (...)

**1994 — 04 — 24.**

Семінар „Белавежы, прысвечаны маім апошнім кніжкам ( — Макс, Луба, Швед, Ваўранюк, Генік М., Целушэцкі Ясь, Сельвесюкі, Чыквін, Занеўская). Варты ўвагі аналітычны тэкст Макса (апублікую). Размова ненудная, але ўсё ж таварыская. Гутарка, пераважна, не пра літаратурны аспект; успрымаюць маё, перш-наперш, як будаўніка гістарычнае ўявы беларуса. Канцэнтрацыя на польскамоўных эсэ, з чым я ўжо звыкся, у рэшце рэшт, і ўспрымаю з пазяхлівай супакоенасцю. Няма, бачу, ратунку.

Спадзяюся, што няхутка давядзецца зноў цярпець падобную публічную гаворку пра негалоўнае ў маіх памкненнях. (...)

**1994 — 05 — 07.**

Ужо гатовая п'еса бяльчанам, *Доўгае змаганне Гліўчыца* (спектакль на гадзіну з лішнім). Але, яны як бы страцілі цікавасць да гэтага свайго *заказу*... Вось так, рыхтык што з *Арыштам* ( — Тарашкевіча). Пішы, пішы, а потым: не, не дамо рады...

*Коліна чарка* якслі не ўдаецца, але днямі дапішу. Затое добра выйшла мне ў Крынках *Сашэсце Ахапа*. Неяк дапамагае ўсё мацнейшая адчужанасць, і Беластока, і Крынак, куды, відаць, хутка вярнуся жыць (...).

Памёр Аляксей Карпюк, равеснік мне ў гадах, былы журналіст *Нівы*. Ад сэрца, у сне (меў ужо адзін інфаркт). А здавалася: о, гэты пажыве, нічым не перамагаючыся, нідзе не рызыкаваўшы (...). Забівае меланхолія, адсутнасць радасці, сэнсу?

Аб'явіўся Рэдлінскі (via New York). Пару гадоў сядзеў ціха, вярнуўшыся адтуль. Цяпер, адчуўшы кан'юнктуру сабе, падаў публічны голас у сваім стылі, г.зн. скандальна. Даў інтэрв'ю *Палітыцы*: Byłem szczuropolakiem (30.I). Эпатуючы пацпалякамі нагаляе пакупнікоў сваім кніжкам. Застаўся ён журналісцкім фокуснікам.

(*Працяг будзе*)

*Тлумачэнні:*

*— Міра — Міра Лукша, паэтка і журналістка „Нівы”;*
*— Рэдлінскі — Эдвард Рэдлінскі, вядомы рэпартажыст і пісьменнік.*

# Прэзідэнт сказаў

Настаўніца матэматыкі аднаго з беластоцкіх ліцэяў расказвала, як у шасцідзесятыя гады, падчас метадычных канферэнцый, супрацоўнікі кураторыі давалі ўказанні, каб на кожным уроку прынамсі два—тры разы спасылацца на нейкае выказванне Леніна, ці прынамсі якога-небудзь іншага класіка марксізму. Цяжка было, — успамінае той час сёлетняя пенсіянерка. У матэматычным асяроддзі гэты класік і яго аднадумцы не надта паважаліся. Лягчэй тады было гісторыкам, філолагам, літаратуразнаўцам. Зразумела, што калі ўрок не быў кантраляваны дырэктарам ці куратарыйнымі ураднікамі, ніхто сабе не сушыў галавы нейкім Ленінам. Праблемы пачыналіся, калі на ўроку з'явіліся госці. Кожны настаўнік матэматыкі меў недзе там запісаныя словы з нейкага ленінскага „евангелля”, але як такія недарэчнасці можна было гаварыць у прысутнасці моладзі, калі тэмай урока быў, напрыклад, дыферэнцыяльны рахунак. Але трэба было пра таго Леніна нешта ўспамянуць, каб атрымаць станоўчую ацэнку кантрольнага органа.

Каб пераканацца, як вялікім аўтарытэтам былі Маркс, Энгельс, Ленін ці Сталін для гісторыкаў, хапае адкрыць якую-небудзь кніжку, выдадзеную ў пяцідзесятыя ці шасцідзесятыя гады. Аказваецца, ніхто так добра не ведаў гісторыю старажытнай Грэцыі ці Рыма, як згаданыя класікі. У сямідзесятыя гады праводзілася ў Польшчы спроба, каб такім жа беспамылковым чалавекам у вачах грамадства зрабіць Эдзя Герка. Публіцысты, журналісты, кар'ерысты, пачынаючы размову ў тэлебачанні ці артыкул у газеце, часта на самым пачатку прадстаўлялі пункт гледжання Першага. Пасля ўжо былі толькі доказы, што заўсёды рацыя за ім. Не ўдалося аднак гэтага давесці да свядомасці польскага грамадства, але адпаведны грунт быў падрыхтаваны. Неўзабаве з'явіўся такі аўтарытэт, які ніколі не памыляўся і не памыляецца, піша знакамітыя вершы і мае адказы на ўсе праблемы чалавецтва.

У Беларусі амаль сем гадоў журналісты, публіцысты, дыпламаты, ураднікі, палітыкі і настаўнікі не мелі на каго спасылацца. Ад часу, калі Гарбачоў дазволіў савецкім грамадзянам самастойна думаць, пасыпаліся на іх галовы самыя няшчасці. Шкоднасць такога працэсу першымі зразумелі прэзідэнты Туркменістана, Узбекістана, Казахстана. Беларусь доўга чакала на свайго генія. Але ў канцы пашанцавала. Сёння амаль кожная размова ў інфармацыйнай праграме „Навіны” пачынаецца словамі журналіста: „прэзідэнт сказаў..., а што вы аб гэтым думаеце...” Ураднікі пачынаюць свае выказванні: „паводле распараджэння Аляксандра Рыгоравіча Л...” Мае абазначаць гэта, што воля прэзідэнта з'яўляецца найвышэйшым законам. „Нардэпы” (народныя дэпутаты), як галоўнае свае палітычнае дасягненне, прадстаўляюць у сродках масавай інфармацыі трапнае разуменне думак прэзідэнта. Калі толькі „абраннік народа” адкрые рот, зараз можна пачуць: „як сказал наш президент...” і ў гэтым месцы словы Аляксандра Р. Л. служаць доказам таго, што „нардэп” гаворыць найпраўдзівейшую праўду і найслушнейшую слушнасць.

Калі так сабе чалавек глядзіць на гэтыя знакамітыя праграмы беларускага тэлебачання, душа расце. Эдвард Герэк, якога так шануе наш тутэйшы народ, у параўнанні з Аляксандрам Р. Л. быў толькі звычайным няўдачнікам.

**Я. М.**

# Кніжка пра студэнцтва

У час, калі студэнцкі рух ледзь дыхае (не адно беларускі, прыкладам чаго хаця б баявіты калісь НЗС) і сарганізаваць звычайныя атрасіны першакурснікаў аказваецца часам не пад сілу, шмат каго можа здзівіць, што яшчэ зусім нядаўна гэтае забаўнае мерапрыемства пачыналася гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. А Яўген Вапа ў лістападзе 1988 года ў Беластоку да некалькіх сотні студэнтаў прамаўляў пра „маральную адказнасць перад гісторыяй, народам і Богам”, заклікаў быць „гордымі абаронцамі сваёй нацыянальнай тоеснасці сярод чужых”, абапіраючыся на цытату з Купалы — „на цябе, наша моладзь, надзея”. Эх, пафас!

Зусім ён, аднак, не смешны. Як не смешная была канспірацыя вясною 1985 года, калі жменька людзей адзначыла ў варшаўскім клубе БГКТ (на Сенатарскай, 8) угодкі 25 Сакавіка. Або незабыўнае хваляванне ад белчырвона-белага сцяга, першы раз адкрыта паказанага ў верасні 1988 года, над магілай Алеся Гаруна ў Кракаве.

Кніжка „Беларускі студэнцкі рух у Польшчы 1981-1992. Выбраныя дакументы”* не толькі пра ўзвышанае. Студэнцкае жыццё ў любых абставінах кіруецца сваімі законамі. Маладосць і шумная, і не заўсёды разумная, але, калі гартаю гэтую кніжку, бачу, што нават у самых несур'ёзных тадышніх пачыннанях адчуваўся глыбейшы сэнс. Здаецца мне цяпер, што ў васьмідзесятыя гады адчувалі мы гістарычнае значэнне кожнага, нават маленькага кроку. Між іншым таму, відаць, ужо на другім з'ездзе Беларускага аб'яднання студэнтаў, у снежні 1989 года, з'явілася пастанова аб зборцы і ўкамплектаванні дакументаў студэнцкага руху.

Кніжка з'яўляецца рэалізацыяй гэтай пастановы і плёнам працы складальнікаў, Славаміра Іванюка і Яўгена Вапы, якія нядаўна яшчэ былі актыўнымі ўдзельнікамі студэнцкага жыцця. А сённяшні старшыня Беларускага саюза быў першым дзве кадэнцыі старшынёю залегалізаванага БАСу.

Славамір Іванюк ва ўступе слушна, хіба, заўважае, што прайшло замала часу, каб пісаць гісторыю перыяду, які знайшоў адлюстраванне ў кніжцы. „Публікацыя крыніц, што адлюстроўваюць гістарычныя факты (...), гэта толькі першы крок на доўгай дарозе навуковых доследаў”. Кніжка выпаўняе сваю галоўную мэту: захаваць як найбольш сведчанняў пра дзейнасць маладых беларусаў у Польшчы. У іншым выпадку, расцярушанне матэрыялаў па прыватных руках давяло б да немінучай страты вялікай іх часткі.

У кніжцы 211 дакументаў, самых розных, пачынаючы ад праграмных дэкларацый і статутаў арганізацый, прэсавымі справаздачамі з розных мерапрыемстваў канчаючы. Можна дыскутаваць, ці ўсё трэба было друкаваць, напрыклад, амаль ідэнтычныя статуты БАСу ад 1981 года. Некаторыя патрабуюць дакладнейшых каментарыяў, напрыклад, як было з гэтымі ганарарамі за даклады на рэйдзе „Бацькаўшчына-3”. Часам можна было ўстанавіць асобы, пра якія аўтары пішуць: „невядомы”. Я сумняваюся, ці трэба было поўнасцю перадрукоўваць так шмат артыкулаў з прэсы, хаця яны, безумоўна, аблягчаюць чытанне і ствараюць найбольш унушальны вобраз часу. Напэўна можна было адшукаць больш рэдкіх дакументаў, эфемерыдных выданняў, скажам, розных лістовак, запрашэнняў ці плакатаў. Але заўсёды можна выдаць новую кніжку — папаўненне.

Трэба падкрэсліць акуратнасць выдання. Матэрыял пададзены вельмі празрыста, з выкарыстаннем багатага навуковага апарату гісторыка. Кніжка ўзбагачаная здымкамі, імянным паказальнікам, каляндарным спісам падзей і нарысам „Беласточчына і пачаткі беларускага студэнцкага руху”. Пададзены празвішчы асоб, якія былі ва ўладах студэнцкіх арганізацый, не толькі БАСу, але і Рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей Польскага згуртавання студэнтаў.

Наогул, спісак празвішчаў у гэтай кніжцы вельмі доўгі. Калі я іх перачытваў — подпісы пад рознымі дэкларацыямі і заявамі, члены ўсялякіх „заснавальніцкіх” камітэтаў — назойліва лезла мне ў галаву пытанне, якое ў варшаўскім гематалагічным шпіталі задаў мне Віктар Ярмалковіч: „Дзе падзеліся тыя тысячы выпускнікоў беларускіх ліцэяў?” (Спадар Ярмалковіч параўноўваў нашы ліцэі з Віленскай беларускай гімназіяй.) Дзе падзеліся сотні, якія прамільгнулі праз беларускі студэнцкі рух у Польшчы ў васьмідзесятыя гады?

**Мікола Ваўранюк**

* *Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992. Wybór dokumentów. Opracowanie Sławomir Iwaniuk, Eugeniusz Wappa, Białystok 1995.*

Зорка
старонка для дзяцей



# Свята ў беларускім прадшколлі

Школьныя „ёлкі" праходзяць паводле спрактыкаваных схем. Найперш выступаюць дзеці, пазней прыходзіць Дзед Мароз, а далей пачынаюцца танцы.

Інакш гулялі дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку. Іхняя ёлка пачалася малебнам у беластоцкім саборы Святога Мікалая. Айцец Рыгор Місяюк адслужыў багаслужбу за поспех беларускіх дашкольнікаў.

— Вы, мабыць, дзеткі, усяго не зразумелі, — хацеў упэўніцца святар.

— Зразумелі, зразумелі! — бойка запярэчылі малышы. Прыемна было паглядзець на дзетак, якія шчыра адмаўлялі малітву. Да таго ж запоўніўся цэлы сабор. „Ёлка" беларускіх дашкольнікаў прыцягнула многіх дзяцей з Беластока.

Пасля пачалася менш сур'ёзная частка. У парафіяльнай святліцы можна было пабачыць п'есу „Калядоўшчыкі". Падрыхтавалі яе бацькі дзетак. Я таксама ўдзельнічала ў падрыхтоўцы спектакля. Таму зараз раскажу вам пра гэта дакладней.

Можа і вы, дарагія чытачы, у будучыні намовіце сваіх бацькоў супольна гуляць у „ёлачным" тэатры. Варта адысці ад пастаянных схемаў гульні.



Аднойчы на сходзе многія бацькі дайшлі да высновы, што найлепшым падарункам для дзетак будзе спектакль. Хацелі адысці таксама ад Дзеда Мароза, які не надта спалучаецца з беларускімі традыцыямі. Доўга падбіралі адпаведную п'есу, аж рашыліся на „Калядоўшчыкаў". І, як у дзіцячыя гады, падзяліліся ролямі, рыхтавалі сцэнічнае афармленне, спявалі калядкі. Тут хачу згадаць, што дзякуючы Ані Кіцаль з Трывежы (нашай карэспандэнтцы) мы развучылі падляшскую калядку „Зорка". Калядка гэтая якраз паказалася на старонках нашай газеткі. Калядка Ані Кіцаль усім бацькам вельмі спадабалася.

У спектаклі прымалі ўдзел некаторыя дзеці. Усе апошнія рыхтаваліся падчас прадшкольных



заняткаў. Падгатовілі яны вялікую колькасць вершыкаў. І што цікавае — дзеці хацелі гаварыць адно беларускія вершы. Чароўна гучалі ў іх выкананні калядкі: „Саўка ды Грышка", „Свецяць зорачкі".

„Калядоўшчыкі" зрабілі вялікае ўражанне. Дзецям найбольш падабаліся пераапранутыя героі спектакля. На сцэне з'явіліся „звяры" — каза і конь. Многія дзеткі баязліва спазіралі ў бок казы. Але калі яна пачала скакаць, танцаваць і раздаваць цукеркі, дзеці да яе прыліплі як мухі да мёду.

Сярод персанажаў былі не толькі жартаўлівыя калядоўшчыкі. У канцы спектакля з'явіліся цыганы. Цыганка гадала людзям шчасце, а цыган прадаваў каня.

А пазней, пасля спектакля, дзеці гулялі з казой, бацькамі, настаўніцамі. Мамы дашкольнікаў у народных вопратках, частавалі дзяцей і гасцей смачнымі пірагамі.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота Юркі Хмялеўскага**

# Як брат з сястрой хацеў жаніцца

*(беларуская народная казка)*

У адной сям'і было двое дзяцей: дачка і сын. Бацькі хутка памерлі. Яшчэ перад смерцю маці паклікала сына і кажа:

— Бяры мае туфлікі і шукай дзяўчыну. На якую падыдуць, тую і за жонку бяры.

Сын паслухмяны быў. Доўга ездзіў па свеце, шукаў адпаведную паненку. З нічым вярнуўся і расказвае сястрыцы.

— Усё жыццё кавалерам хадзіць буду, туфлікі мамы ні адной дзеўцы не падыходзяць.

— Ты што? — засмяялася сястрыца, узяла яна памераць туфлікі... і замерла. Яе ножка якраз падыходзіла. Брат таксама задумаўся.

— Што ж, відаць, ты сястрыца мне суджана. Будзем жаніцца!

Калі дзяўчына ўцяміла сваё становішча, пачала шукаць ратунку. Узяла яна кубак віна і кажа:

— Кубак віна разалыіся, сырая зямля расступіся, будзе брат з сястрою жаніцца!

Пасля варажбы зямля расступілася. Сястрыца схавалася па калені. Зноў узяла кубак віна і сказала:

— Кубак віна разалыіся, сырая зямля расступіся, будзе брат з сястрою жаніцца!

Тым разам зямля расступілася аж па спіну дзяўчыны. І тады сястрыца ўзяла трэці кубак і сказала:

— Кубак віна разалыіся, сырая зямля расступіся, будзе брат з сястрою жаніцца!

Пасля трэцяга загаду зямля расступілася і дзяўчына патанула ў зямлю. А там — бачыць сястрычка — сцежка. А далей хатка на курынай назе.

— Чаго ты тут валэндаешся, — буркнула дачка ведзьмы, — мамка прыляціць і цябе з'есць.

— А мне ўжо і так усё адно, — расплакалася сястра. Расказала пра сваё гора. Пашкадавала яе дачка ведзьмы, паласкавела.

— Хавайся пад ложак, бо мамка вяртаецца, — загадала госці, а сама ўваткнула ў сцяну іголку.

— Хто тут чужы? Дух не наш чую! З'ем, з'ем яго! — закруцілася на мятле старэча. Але ягрызанула два разы сцяну і адляцела.

— Цяпер, — кажа ведзьміна дачка, — чым хутчэй уцякай.

— Дзе я дзенуся? Лес навокал, цямрэча, ваўкі выюць, — расплакалася сястра.

— Ну і добра, дапамагу табе, — рашыла дачка ведзьмы.

Увапхнула ў попел іголку, узяла маціна каптур, шчотку, патэльню. Пасядалі дзеўкі на мятлу і адляцелі шукаць зямлі.

Ведзьма на золку вярнулася. Хапанула два разы попелу і кінулася ў пагоню. Доўга шукала дачкі і сястрыцы аж урэшце іх нагнала.

— Ой, што ж гэта, канец, ці што? — лямантавала сястрыца, а ведзьміна дачка за сябе шчотку кінула. І тут здарылася незвычайнае, з шчоткі ўтварыўся такі густы лес, што ведзьма два дні праз яго прадзіралася. Але ж ведома, у старой ведзьмы вопыт, паслухмяная мятла, так і зноў нагнала ўцякаючых. Пабачылі гэта дзеўкі і кінулі за сябе каптур. Умомант выраслі за імі магутныя, небаклічныя горы. Чатыры дні праз іх ведзьма прабівалася. І зноў пачала ляцець як звар'яцелая. Нюхам дарогу падбірала, таму хутка зноў дзяўчат нагнала.

— Ну цяпер то я вас абедзве з'ем, — завішчала ведзьма.

Дзеўкі аднак кінулі за сябе патэльню і за імі вялікае мора разлілося. Дзякуючы гэтаму дзяўчаты на зямлю ўцяклі.

— Давай ластаўчкамі перакінемся, — кажа ведзьміна дачка.

Так і зрабілі. Прыляцелі яны на акно брата і песню спяваюць.

— Ніколі, ніколі я ў чужой старонцы не бывала. Сёння прыляцела, мужа сабе ўзгледзела, пачала ведзьміна дачушка.

Пачуў гэтыя словы брат, задумаўся. Пайшоў з людзьмі навіной падзяліцца.

— Кожны дзень прылятаюць, спяваюць, душу да болю кранаюць. Што рабіць, людкове? — пытаўся малойчык добрых людзей.

Тыя параілі яму злавіць птушак і перакінуць іх праз плячо. Так і зрабіў наш брат. Вымазаў падаконнік смалой і чакае птушак. Прыляцелі ластаўкі вясёлыя, зашчабяталі і прысталі да падаконніка.

Узяў іх брат і перакінуў праз плячо. Азірнуўся і бачыць, прыгажуні стаяць, як адна падобныя, роўныя.

— Кажыце зараз, каторa з вас сястра мая?

— Не скажам, сам здагадайся!

— Калі так, то сабе нешта кепскае зраблю, — пахітрыўся малойчык.

Наліў ён у свінячы пузыр бурачанага квасу, уціснуў яго пад вопратку, узяў нож і кажа:

— Кажыце, каторая сястра мая, а то закалю сябе.

Дзеўкі аднак маўчалі. Але калі хлопец паваліўся на зямлю, а вакол яго пацякла чырвоная калюжа, ускочылі, загаласілі.

— А мой ты браточак! — плакала сястра.

— А мой ты саколік! — плакала дачка ведзьмы.

Тады хлопец падняўся з зямлі, шырока засмяяўся і ўбачыў дзве розны дзяўчыны — сястру і незнаёмую. Падаў незнаёмай туфаль і бачыць, што гэта суджаная, адзіная.

У найбліжэйшую нядзелю вяселле наладзілі, тыдзень гулялі, сто гадоў разам векавалі. А шчаслівая сястра, што адваявала сваю волю, выйшла за добрага хлопца.

**З-ка**



Талон "Зоркі" н-р 6
11.02.1996

# Уваходзіны

Пра пабудову нашымі продкамі дома мы пісалі раней. Сёння прадставім не менш важны момант, звязаны з домам — *уваходзіны*. Наступаў ён звычайна хутка пасля завяршэння будовы. Першым у новую хату ішоў гаспадар з гаршком, у якім быў жар — яркае гарачае вуголле. За ім усе хатнія неслі маёмасць. Гаспадар абносіў гаршчок уздоўж сцен, спыняючыся на міг у кожным куце, пазней ставіў гаршчок на прыпечак і адразу запальваў у печы. А напярэдадні ў новы дом праз акно запускалі пеўня ці курыцу. Калі певень спяваў гэта лічылася добрым знакам, калі не — дрэнным.

Пры ўваходзінах трэба было памазаць мёдам усе куты, каб жыццё было салодкае. Пераход у новы дом прымяркоўваўся да поўні.

Было прынята ўкрасці ў суседзяў качаргу і прынесці яе ў новы дом. **Але перш за ўсё заносілі абраз і стол.**

У асобных рэгіёнах Беларусі сустракаўся і такі звычай: пры ўваходзінах праз адчыненыя дзверы кідалі клубок нітак. Трымаючыся за нітку, члены сям'і па старшынству ўваходзілі ў хату.

Першымі ў новую хату патрэбныя рэчы заносілі звычайна гаспадар ці гаспадыня. Але калі яны былі бяздзетныя, рабілі гэта іх родзічы, найлепш цяжарная жанчына.

Стол і печ былі ўвасабленнем хатняй святыні. Пры закладцы печы часта збіралі *талаку* (групу добраахвотнікаў), запрашаючы пераважна моладзь. Маладыя майстры працавалі з песняй і жартамі. У канцы работы гаспадар частаваў талакоўцаў. Пабудову печы, як і хаты, прымяркоўвалі да поўні, бо гэта давала надзею, што печ будзе добра трымаць цяпло. Калі першы раз палілі ў печы, у яе трэба было ўсыпаць 9 жменяў зерня, ад чаго сцены печы пакрываліся слоем глянцу, да якога пазней не прыставала сажа.

У дзень перасялення ў новую хату гаспадары запрашалі гасцей, а таксама святара, які свяціў новае жыллё. Увайшоўшы ў хату, госць кідаў грошы на печ, хлеб і соль клаў на стол, зерне на лаўку. Усё гэта гаспадар новага дома клаў у клецьь. Жанчыны прынасілі воўну, посцілкі, абрусы, муку, крупы, яйкі, сала. Гэтыя падарункі прымала гаспадыня. Пазней была бяседа. Вёў яе самы дасціпны і вясёлы чалавек з ліку гасцей. Мужчыны давалі часта „парады" гаспадарам. Часта падкладвалі пад сеннік які-небудзь жалежны прадмет, каб у сям'і нарадзіўся сын.

Беларусы верылі, што гасцей трэба было пачаставаць як найлепш, бо гэта абазначала, што жыццё ў новай хаце будзе дастатняе. Нашыя продкі верылі, што калі нехта ў дзяцінстве разбураў птушыныя гнёзды, той за жыццё зменіць столькі сяліб, колькі гнёздаў разбурыў. Лічылася, што пакідаючы старое жыллё, нельга было вымятаць смецце, бо той, хто ў гэтую хату ўсяліцца, не будзе мець шчасця.

АА

## Увага, конкурс!

Намалюйце ўнутраную прастору свайго дома мараў. Працы дашліце ў „Зорку".

Мікола Гайдук

# АБ НАШЫМ МІНУЛЫМ

**(2)**

### Як жылі продкі беларусаў

Сваім жыццём, заняткамі, вераваннямі і абрадамі беларускія плямёны нядужа розніліся ад суседніх ім другіх славян, аднак былі ў іх і асаблівасці.

Большасць продкаў беларусаў займалася земляробствам, сеяла пшаніцу, жыта, проса, гарох, боб і іншыя расліны, гадавала кароў, валоў, коней, свіней, авечак, птаства. Рамеснікі і частка сялян займаліся вырабам посуду з гліны і дрэва, плаўкай жалеза з балотнай руды і вырабам з яго зброі і рэчаў штодзённага ўжытку. Таленавітыя майстры выплаўлялі шкло і пераплаўлялі каляровыя металы, таксама і золата. Выраблялі з іх розныя ўпрыгожанні, рэчы раскошы. Жанчыны апрацоўвалі воўну, лён і каноплі, пралі, ткалі, шылі вопратку. Мужчыны і юнакі ахвотна палявалі на тураў, зуброў, аленяў, дзікоў і іншых лясных звяроў, займаліся бортніцтвам — мёд і воск тады высока цаніліся.

Пачаткова насельніцтва было язычніцкім, пакланялася з'явам прыроды: сонцу, месяцу, камяням, магутным дрэвам, крыніцам, грому, маланцы, агню. Агонь лічыўся святой ачышчальнай сілай. Таму пасля смерці цела нябожчыка з рэчамі, якія ён любіў або карыстаўся імі, спальвалі на вялікім вогнішчы, а рэшткі ад кастра збіралі ў спецыяльную пасудзіну (урну) і на ёй насыпалі высокі курган. Пры насыпанні кургана над урнаю князя ці іншага слаўнага чалавека спраўлялі трызну: багаты пачастунак, спаборніцтвы і гульні, а над простым чалавекам насыпалі маленькі курганок і частавалі куццёй з макам і мёдам. Гэтыя пахавальныя курганы часам называюць „валатоўкамі", быццам у іх пахаваны волаты — людзі вялікія і сільныя. На Беласточчыне курганы завуць капцамі, ссыпкамі, шведскімі або французскімі магіламі. Найболей іх захавалася ў Белавежскай пушчы.

Паступова продкі беларусаў сваё вераванні ўвасабілі ў бажаствах, якія ўяўляліся ім як чалавечыя постаці. Грозны вусаты Пярун лічыўся валадаром грому, маланкі і дажджу, апекуном ваяўнікоў. Яго сын — гэта Ярыла, бог перамогі і ўдачы. Велес — бог жывёлагадоўлі і заможнасці, валадар замагільнага свету. **Цёця** — мажная высокая жанчына — лічылася багіняй ураджаю і апякункай сям'і, а **Лёля** — прывабная дзяўчына — гэта багіня вясны, дзявочай красы і кахання. **Зюзя** — бог зімы і холаду, а **Жыжаль** — бог агню і кавальства. Верылі і ў іншых багоў.

Пра звычаі і абрады радзімічаў летапісец паведамляе, што яны *ладзілі гульні паміж сёламі, і сходзіліся на гэтыя забавы, на танцы і на ўсялякія д'ябальскія песні. І там выкрадалі сабе жонак па змове з імі, а мелі ж па дзве і па тры жонкі. Калі ж хто паміраў, то наладжвалі па ім трызну, а потым рабілі вялікую калоду і клалі на яе нябожчыка і спальвалі, а потым сабраўшы косці, складвалі іх у невялікую пасудзіну і ставілі на слупах пры дарогах.*

Продкі беларусаў, асабліва жанчыны, любілі розныя ўпрыгожанні. Крывічанкі насілі вялікія срэбныя або залатыя скроневыя кольцы, дрыгавічанкі — буйныя зярнёныя пацеркі, радзімічанкі — сяміпрамянёвыя кольцы, а ўсе — многа маністаў з бурштынавых або розных колераў шкляных пацерак, пярсцёнкі, бранзалеты з розных металаў, вельмі прыгожа выробленыя. Мужчыны любаваліся ў моцнай і ўпрыгожанай зброі.

### Практыкаванні

*1. Адкуль продкі беларусаў бралі зброю і іншыя рэчы з жалеза?*

*2. Чым у даўнія часы займаліся жанчыны?*

*3. Як ты думаеш, чаму ў нашых продкаў высока цаніліся мёд і воск?*

*4. Як калісьці хавалі багатых нябожчыкаў, а як бедных?*

*5. Якое язычаскае бажаство, патвойму, самае страшнае, а якое самае мілае?*

*6. Чым розніліся ва ўпрыгожаннях крывічанкі, дрыгавічанкі і радзімічанкі, а ў чым яны былі падобныя?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Нашы продкі нябожчыкаў спальвалі, рэшткі вогнішча і касцей складвалі ва ...................., насыпалі на ёй ..............., або ставілі на .............. пры .................... . Язычаскія пахавальныя курганы называюць ..........., .........., ................, або .............., на Беласточчыне найболей іх захавалася ў ........... .................... . Сын Перуна, ............, лічыўся богам ................. і ............, а ............. была вядома як багіня ўраджаю і апякунка сям'і.

| WIĄZKA SŁONY ↓ | BIEDA ↓ | URAN ↓ | CZOŁG ↓ |
|---|---|---|---|
| Ж | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

### Польска-беларуская магічная крыжаванка н-р 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў на польскай мове. Пасля правільнага рашэння крыжаванкі вы атрымаеце аднолькавыя словы ў гарызантальных і вертыкальных калонках. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 1:** *Свята каляд*

Узнагароды — фламастэры „Magic" — выйгралі:

1. **Галіна Галавачык** з Тыневіч Вялікіх,
2. **Марко Урыновіч** з Койлаў,
3. **Цаліна Глагоўская** з Гданьска,
4. **Сымон Сухадола** з Нараўкі,
5. **Лукаш Вашчэнка** з Бельска-Падляшскага,
6. **Жанэта Роля** з Бельска-Падляшскага.

# Рашэнне конкурсу

У пластычным конкурсе **„Дом маіх мараў"** прыняло ўдзел сто трыццаць пяць дзяцей з усёй Беласточчыны. Журы, якое складалі журналісты „Нівы" — Алег Латышонак, Мікола Ваўранюк, Міра Лукша і Яўген Міранові — узнагародзіла наступных аўтараў прац:

1) **Моніка Адынец**, кл. VI „б" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім; яе працу мы друкавалі ў „Ніве" н-р 52 за 1995 год,

2) **Моніка Ярашук**, кл. VII ПШ у Чыжах,

3) **Эля Гжыбэк**, кл. VII „б" ПШ у Нараўцы,

4) **Аня Юрчук**, кл. VI „б" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Праца Ані выканана ў пластыліне і таму па тэхнічных прычынах немагчыма яе перадрукаваць на старонках „Зоркі". Дом Ані мае форму яблыка, навокал чырвонага (з сінімі і аранжавымі вокнамі — вачамі) яблыка растуць магутныя дрэвы.

Узнагароджаныя дзеці атрымаюць каляровыя фламастэры.

**Віншуем!**



*Так дом сваіх мараў уяўляюць Эля Гжыбэк (верхні малюнак) і Моніка Ярашук (ніжні).*



# Дом маіх мараў

Я часта думаю аб тым, які будзе мой дом, калі я дарасту. У маіх марах ён выглядае вельмі прыгожа. Гэта невялікі дом. Да яго ўваходзіцца праз драўляныя дзверы. У маім доме ёсць сем пакояў. У кожным ёсць многа вокнаў, якія рассвятляюць сцены. Навокал майго белага дома відаць каляровы агарод. У ім поўна пахучых ружаў, цюльпанаў і іншых чырвоных і жоўтых кветак. У садзе многа дрэў — яблыняў, груш. Восенню пад імі, на зялёнай траве, ляжаць вялікія чырвоныя яблыкі і жоўтыя грушы. У садзе ёсць таксама лавачка, на якой я слухаю спеў птушак. Ля дома стаіць вялікая, сівая буда, у якой спіць сабака Арыс. У доме чакаюць на мяне два маленькія кацяняты. Адно чорна-белае, другое руда-белае. Я магла б з імі гуляць цэлыя дні. Вечарам праз вялікія вокны відаць сонца, якое хаваецца ўжо за дрэвы. У маім доме мараў у кожным пакоі зялёныя кветкі. Сцены памаляваны на жоўты колер. На гэтых сценах вісяць каляровыя і вясёлыя малюнкі. На памосце ляжаць мяккія дываны. У маім пакоі ёсць два вялікія вокны. Па іх баках відаць ружовыя фіранкі ў рознакаляровыя кветкі. З маіх вокнаў відаць рэчку. Па рэчцы плаваюць жоўтыя качкі, рыбы і я часам люблю там паплаваць. За рэчкай расцягваюцца зялёныя лугі, дзе многа пахучых кветак. Там пасуцца каровы. Каля майго дома ёсць таксама лес. У ім поўна птушак і іншых звяроў. Я часта запрашала б сваіх сяброў. Разам пайшлі б мы ў лес у грыбы. Я і мае сябры часта купаліся б у рэчцы і танцавалі б у маім прыгожым доміку.

**Ілёна Кубаеўская,**
Пачатковая школа н-р 3
у Бельску-Падляшскім

# Пачатак вывучэння бежанства

Напачатку было ўсведамленне круглай гадавіны.

— Летась прайшло восемдзесят гадоў з таго часу, як насельніцтва Беласточчыны падалося ў глыб Расеі, у бежанства, — расказвае Дарафей Фёнік. — Гаварыў я з сябрамі з Беларускага гістарычнага таварыства, каб неяк гэтую дату адзначыць. Я першапачаткова прапанаваў навуковую сесію. Пра выстаўку нават не думаў, бо, здавалася, не будзе для яе экспанатаў.

Тыя, што ўжо бачылі выстаўку пра бежанства ў бельскай ратушы, могуць здзівіцца, што была такая боязь. Для аднаго выставачнага павільёна экспанатаў аж надта: дакументы, тагачасная прэса, фотаздымкі і прадметы штодзённага ўжытку. Паказваюць яны не толькі храналогію гэтых драматычных падзей, але і добра перадаюць атмасферу часу.

Ідэя выстаўкі ўзнікла, калі Дарафей Фёнік скантактаваўся з Ірэнай Матус і ўбачыў сабраныя гэтай даследчыцай матэрыялы. А калі паглядзеў сямейныя зборы Артысевічаў і Паплаўскіх, з'явілася ўпэўненасць: захаваліся дакументы ў дзвюх сем'ях, ёсць і ў іншых.

Тады ўтраіх, Дарафей Фёнік, Ірэна Матус і Арсень Артысевіч прыйшлі да дырэктаркі Філіяла Акругова музея ў Бельску-Падляшскім Аліны Дэмбоўскай. Атрымалі залу, поўную свабоду ў падборцы і размяшчэнні экспанатаў (таксама некаторыя экспанаты) ды прафесійную дапамогу музейнікаў.

— Заінтрыгаваў мяне артыкул „Бежанцы" ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, — гаворыць Дарафей, — дык у Менску трапіў я да яго аўтара Віталя Скалабана. Ён адкрыў мне магчымасці знайсці адпаведныя выставачныя матэрыялы. Большасць здымкаў, выразкі з прэсы і копіі дакументаў пазычаны з Музея гісторыі і культуры Беларусі. Іншыя крыніцы экспанатаў гэта Музей Багдановіча ў Менску, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Гістарычны музей у Беластоку, Музей у Бельску і прыватныя архівы.

Мяне, асабіста, найбольш цікавілі дакументы, якія паказваюць, як жыло тадышняе грамадства, як круціўся запушчаны ў рух механізм бежанства. Гэта, напрыклад, спісы маёмасці — гаспадары пасля вяртання павінны былі атрымаць дзяржаўную кампенсацыю за страчанае ў ходзе ваенных падзей. Або „кніжка (часамі *білет*) бежанца", у якой штомесяц запісвалася ўрадавая дапамога. Пра такія дробныя рэчы сведкі пазней не расказвалі, а яны якраз заключаюць у сабе шмат цікавай інфармацыі.

Думаю, што нечаканасцю для многіх быў немецкі пашпарт на нямецкай і беларускай раўнапраўных мовах. А некаторыя з наведвальнікаў знайшлі сваіх продкаў на спісках удзельнікаў з'езда бежанцаў у Маскве.

Выстаўка спатыкаецца з памяркоўным зацікаўленнем. Ёсць крыху індывідуальных наведвальнікаў, школы прыводзілі вучняў класамі.

— Як на Бельск, то і так вельмі добра, — кажа Дарафей, — чаго ж чакаць ад такога мястэчка, дзе няма ні навуковай установы, ні асяроддзя. Можна сказаць, выстаўка заданне выканала, не пройдзе бясследна. Мяне хвалюе іншае, каб на гэтай выстаўцы ўсё і не кончылася. Частку экспанатаў будзе можна заўсёды паглядзець у маёй хатцы-музеі ў Студзіводах, але іншыя вернуцца ў фонды музеяў, разыдуцца па людзях. А найважнейшае, то давесці да свядомасці грамадства як найбольш шырокую і праўдзівую інфармацыю пра бежанства. На жаль, нашае гістарычнае асяроддзе заслабое, каб распрацаваць праграму даследаванняў такой складанай праблемы. Дакументы дзесьці там у архівах захаваюцца і да іх будзе можна заўсёды звярнуцца, але цяпер апошні момант, каб запісаць сведчанні людзей. Амаль у кожнай вёсцы жыве яшчэ хтосьці, хто б нават па прозвішчах устанавіў бежанцаў з яго мясцовасці. Цяпер „Ніва" друкуе такія ўспаміны ад выпадку да выпадку, а тут трэба комплексная праца. Таксама як і пры распрацоўцы, друкаванні архіўных дакументаў. Наш абавязак — змяніць сякія-такія ўяўленні грамадства пра бежанства на абгрунтаваныя веды, якія будуць падавацца ўжо ў школьных падручніках.

Сарганізаваная з нагоды адкрыцця выстаўкі сесія дае спадзяванні на будучыню. Завязаліся сувязі з даследчыкамі з Беларусі, успомненым ужо Віталем Скалабанам і Анатолем Бабковым з Гомеля. Асноўны матэрыял для вывучэння бежанства захоўваецца ў архівах не толькі Беларусі, але і Расеі. Гісторыкам з Беласточчыны проста фізічна не будзе магчыма да іх дайсці. Таму вартаснай будзе такая дапамога калег з Беларусі.

Ды гэта ж, у канцы, праблема не толькі Беласточчыны, але істотны фрагмент агульнабеларускай гісторыі. Прычым, абсалютна не спазнаны. Звяртаў на гэта ўвагу яшчэ прафесар Мікола Улашчык, якому, на жаль, не хапіла жыцця заняцца апісаннем бежанства.

Пакуль, аднак, атрымаем гатовую і абшырную працу на тэму бежанства, варта пацікавіцца тым, што паказвае нам выстаўка „Бежанства. Невядомыя ўцёкі 1915-21 г.г.", якую ў ратушы ў Бельску-Падляшскім можна будзе паглядзець да канца лютага.

**Мікола Ваўранюк**

P.S. А можа ў іншых мясцовасцях знойдуцца ўстановы, якія хацелі б гэтую выстаўку прыняць у сябе.

# Пачаліся раённыя агляды

Раённыя агляды беларускай песні, якія з'яўляюцца базай Фестывалю беларускай песні, пачаліся ад так званых „цяжкіх" тэрыторый нашага рэгіёна. Маю тут на думцы перш за ўсё

### Дуброву і Саколку.

Толькі старэйшыя жыхары з тутэйшых вёсак яшчэ гутараць між сабою па-беларуску. Значная частка маладых людзей (хаця і беларусаў, але каталіцкага веравызнання) затрачвае няўхільна пачуццё прыналежнасці да беларускай нацыі. Так жывецца зручней і лягчэй — яны ж жывуць у Польшчы.

Ёсць аднак і ў Дуброве, і ў Саколцы аддзелы Беларускага таварыства, ды ёсць таксама два вядомыя вясковыя спявачыя калектывы — з Хільмонаў і Грабянёў. Мелі яны выступіць на аглядзе ў Дуброве 21 студзеня г.г., але лёсу не прадбачыш — у кіраўнічкі аднаго калектыву памёр муж, нехта некага пахаваў і ў другім калектыве. Што як што, але ў такой сітуацыі нашы жанчыны не заспяваюць. Паведамілі, што не прыедуць. А калектыў з Хільмонаў жа нават у мінулым годзе рыхтаваўся да юбілею...

Ну, але ёсць яшчэ маладзёжныя калектывы! І старшыня Дуброўскага аддзела Аркадзь Суліма разам з дырэктарам Дуброўскага асяродка культуры Ліляй Александровіч, вялікай прыхільніцай беларускай дзейнасці, выраšае арганізаваць у Дуброве калі не агляд дык прынамсі канцэрт.

Канцэрт адбыўся ў Дуброўскім асяродку культуры. З мясцовых калектываў выступіў маладзёжны вакальна-інструментальны калектыў „Сальвадор", які працуе пры гэтым жа асяродку культуры, а таксама вакальна-інструментальны калектыў „Гранд" з Грабянёў.

Каб канцэрт быў больш „салідны", арганізатары запрасілі таксама два вакальна-інструментальныя калектывы з Беластока: „Аракс" і „Ада", а таксама Уладзіміра Іванюка і Анатоля Стэпанюка з хору, які працуе пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку.

Ад імя Галоўнага праўлення Беларускага таварыства на канцэрце прысутнічала яго сакратар Валянціна Ласкевіч. Мясцовыя калектывы, якія выказалі высокі мастацкі ўзровень, яна запрасіла прыняць удзел у цэнтральным аглядзе.

— Вечарам гэтага ж дня было вырашана даць канцэрт у Саколцы. Сяргей Крышань, старшыня Сакольскага аддзела, так стараўся, — сцвярджае з жалем Валянціна Ласкевіч, — усё арганізаваў, распаўсюджваў плакаты, а тут далі нам залу кіно а 17-ай гадзіне, якраз тады, калі ў царкве адбываецца багаслужба. Сабралася ў выніку няшмат людзей, пераважна былі гэта беларусы-католікі. Хаця публікі сабралася нямнога, за залу трэба было заплаціць.

### У Сямяцічах

затое 28 студзеня г.г. у зале кіно не засталося свабодных месц, паінфармаваў нас старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі. Можна сказаць, што і тут адбыўся канцэрт у якасці агляду. І сюды не ўсе калектывы прыехалі, якія як планавалася, мелі ўзяць удзел у раённым аглядзе. Старэюць нашы людзі, хварэюць, паволі выкрушваюцца.

Даехалі і выступілі: Язэп Карпюк з Сямяціч са сваімі песнямі, другі саліст Аляксандр Гуменяк з Агароднікаў, калектывы з Мельніка і з Нурца-Станцыі. Усе гэтыя калектывы запрошаны на цэнтральны агляд у Беласток.

Гасцінна выступілі: вакальна-інструментальны калектыў „Ада" з Беластока ды вялікі калектыў „Чарамшына" з Чаромхі.

На канцэрце прысутнічалі прадстаўнікі ГП БГКТ: старшыня Ян Сычэўскі і сакратар Валянціна Ласкевіч.

Добра, што канцэрт удаўся, бо і Сямяціцкі рэгіён — о-го-го — які „нялёгкі"!

**Ада Чачуга**

## Ластаўкі юбілею

У бягучым годзе Белавежскі нацыянальны парк будзе святкаваць сваё 75-годдзе. Першай ластаўкай гэтай падзеі аказалася серыя віншавальных




картачак (karnetów), выдадзена напрыканцы мінулага года самім Паркам. Кожная картачка прадстаўляе іншага звяра, які жыве ў межах БНП. Зубры віднеюцца аж на дзвюх картачках, на апошніх бачым аленя, лася, статак дзікоў, арла, сарну-самца і тарпанападобнага коніка. Малюнкі звяроў у тэхніцы ксілаграфіі (гравюра на дрэве) выканаў Яраслаў Кірыленка. Значок 75-годдзя БНП, які таксама памешчаны на картачках, апрацаваў белавежскі графік Лех Навацкі. Цэласць аформіў Анджэй Антчак, які зараз працуе эколагам у Надлясніцтве Белавежа.

Картачкі прадаюцца турыстам у Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы.

**Пётр Байко**

# І Міжнародны форум пісьменнікаў

Напрыканцы студзеня гэтага года ў Гайнаўцы адбыўся форум пісьменнікаў з Польшчы і Беларусі, у якім удзельнічала звыш 30 асоб. Арганізавалі сустрэчу літаратараў Краёвае праўленне Згуртавання супрацоўніцтва Польшча-Усход, Згуртаванне Польшча-Беларусь і Польскае беларусазнаўчае таварыства.

Удзельнікі літаратурнай бяседы даказвалі, што супольна можна зрабіць больш і лепей для ўзаемнага пазнання культурнай і літаратурнай спадчыны нашых народаў, а таксама пашырэння супрацоўніцтва на літаратурнай ніве і дружбы. У ходзе абмену інфармацыяй выявілася, што ў Рэспубліцы Беларусь выходзіць нашмат больш перакладаў літаратурных твораў польскіх пісьменнікаў чымсьці беларускіх аўтараў у Польшчы. Паэты і празаікі з абедзвюх краін пазнаёміліся з выдавецкімі магчымасцямі па абодвух баках мяжы ў цяперашні перыяд цяжкай эканамічнай сітуацыі. Пісьменніцкае асяроддзе пастулавала аднавіць продаж беларускіх кніжак між іншым у адной з беластоцкіх кнігарняў ды польскіх выданняў у кніжных магазінах у Гродне і Мінску.

Сустрэча польскіх і беларускіх пісьменнікаў паспрыяла наладжанню асабістых кантактаў. А гэта, як вядома, справа бадай ці не самая важная.

Форум акрэсліў пэўныя канкрэтныя планы на будучыню. Такога роду сустрэчы будуць праходзіць прынамсі адзін раз у год. На іх будуць запрошаны таксама прафесіянальныя перакладчыкі ды гісторыкі літаратуры, а хто ведае, з часам, можа быць, і мастакі, якія робяць мастацкае афармленне (ілюстрацыі) кніжак. У дыскусіі прапанавалася запрасіць да ўдзелу ў пісьменніцкім форуме не каго іншага а вось моваэнаўцаў. Усялякіх прапаноў было нямала. У тым ліку і такой, каб з'езды арганізоўваць у цяплейшыя поры года.

Гайнаўская сустрэча польскіх і беларускіх пісьменнікаў не абышлася без таго, каб не прыняць праграмы далейшай дзейнасці ў галіне супрацоўніцтва. Запланавана выданне салідных анталогіі беларускай паэзіі і прозы ў Польшчы ды такой жа кнігі польскай літаратуры ў Рэспубліцы Беларусь. У далейшым неабходна выдаць падобныя анталогіі дзіцячай паэзіі.

А ўжо апрача ўсіх вышэйзгаданых выданняў за самае, асабліва прыярытэтнае, творцы прызналі падрыхтаваць „Беларуска-польскі слоўнік".

Падсумоўваючы сустрэчу трэба сказаць, што з'езд быў адной з нагод, каб умацаваць сяброўскія сувязі, а ўжо прынамсі наладзіць зносіны з новапазнанымі літаратарамі і выдаўцамі.

Польскія і беларускія „людзі пяра" будуць цёпла ўспамінаць сустрэчу з Генеральным консулам Беларусі ў Польшчы Міхаілам Слямнёвым, з бурмістрам горада Гайнаўкі Ядвігай Рудзінскай-Патэюк ды з шыкоўным акцёрам Войцехам Сямёнам і з эстраднай групай, якую ён узначаліў. У памяці вучняў з пачатковых і сярэдніх школ у Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Нараўцы, Нарве і Орлі надоўга астануцца аўтарскія сустрэчы з беластоцкімі, варшаўскімі і мінскімі пісьменнікамі.

Варта дадаць, што ўдзельнікі форуму наведалі Лясны музей у Белавежы, пабывалі ў Белавежскай пушчы, дзе пасля прагулкі падсілкаваліся ля распаленага кастра. У свабодны час знаёміліся з Гайнаўкай, у тым перш-наперш з Беларускім музеем (у пабудове), а таксама мелі магчымасць паслухаць выступленне парафіяльнага хору ў гайнаўскім саборы Святой Тройцы, агледзець аснашчэнне, іконы ды літургічныя прадметы ў царкве, сустрэцца і пагутарыць з настаяцелем гайнаўскага прыхода а. Міхалам Негярэвічам.

У форуме ўдзельнічалі пісьменнікі, перакладчыкі літаратурных твораў і літаратурныя крытыкі, між іншым Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Галіна Каржанеўская, Мікалай Кавалеўскі, Анджэй Дравіч, Эўгеніюш Кабатц, Флёр'ян Няўважны, Роман Карась, Чэслаў Сэнюх, Дыянізы Сідорскі, Аляксандр Баршчэўскі, Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Віктар Швед, Тэрэса Занеўская, Янка Целушэцкі.

Удзельнікі форуму ад сэрца дзякуюць за вялікую сардэчнасць і апеку, а таксама за ўсе клопаты і намаганні звязаныя з арганізаваннем і правядзеннем мерапрыемства члену згуртавання Польшча-Беларусь Барбары Чыжэўскай з Беластока і пані бурмістр Гайнаўкі Ядвізе Рудзінскай-Патэюк.

Да наступнай сустрэчы!

**Янка Целушэцкі**

# Царква ў Маркавым манастыры

Самым старажытным і самым славутым праваслаўным манастыром Віцебска быў мужчынскі Свята-Троіцкі Маркаў манастыр. Размешчаны на беразе Заходняй Дзвіны на адлегласці каля дзвюх вёрст ад горада, ён на працягу некалькіх стагоддзяў прываблівае да сябе навакольных вернікаў і шматлікіх паломнікаў. Манастыр размяшчаўся на невялікім узвышшы, якое называлася Троіцкай гарой, і быў абнесены мураванай агароджай. Заснаваны манахам Маркам не пазней XV стагоддзя, манастыр быў зачынены бальшавікамі, якія ў 1920-я гады размясцілі ў ім канцэнтрацыйны лагер. Сёння на месцы былога Маркава манастыра ўзведзены корпусы Віцебскага камбіната шаўковых тканін, а з усяго комплексу манастырскіх пабудоў захавалася толькі адна мураваная Пакроўская царква. У ліку знішчаных і назаўжды страчаных для культуры — драўляная саборная царква ў гонар Св. Тройцы, апавед пра якую і прапануецца ўвазе чытачоў.

Пра найбольш ранні перыяд гісторыі Віцебскага Маркава манастыра захавалася мала звестак. Вядома, што ў часы сярэднявечча ён прыйшоў у такі занялад, што ад яго засталося толькі імя заснавальніка. Адноўлімі манастыра сталі князь Леў Самуэль Агінскі, стольнік і ціўун троцкі, і браслаўскі земскі суддзя Себасцян Мірскі, якія дамагаліся атрымання ад караля Жыгімонта III спецыяльнай прывілеі на права аднаўлення манастыра, а ў 1633 г. пабудавалі ў ім сваім коштам драўляную царкву і манаскія келлі. У 1690 г. у манастыры здарыўся вялікі пажар, які знішчыў практычна ўсе пабудаванае. Да гэтага часу Леў Самуэль Агінскі, прызнаны сучаснікамі „слупом праваслаўнай веры", ужо памёр, а ягоны сын Сымон Караль Агінскі перайшоў у каталіцтва. Аднак, не зважаючы на змену веравызнання, князь Сымон Караль працягваў клапаціцца аб лёсе праваслаўнага Маркава манастыра. Асобнай граматай, напісанай яшчэ ў 1687 г., ён пацвердзіў фундацыйны запіс сваіх бацькоў на маёнткі Маркава і Шыдлоўшчыну, што былі раней ахвяраваны манастыру. Больш таго, у адным з пунктаў граматы размова ішла аб тым, што ў выпадку адыходу кіраўніцтва манастыра „ад релеи нашей старожитной греческой" у каталіцтва або уніяцтва манастыр цалкам пазбавіўся б ласкі і падтрымкі фундатара. Князь Агінскі ўласным коштам аднавіў знішчаныя пажарам манаскія келлі і ўзвёў драўляную саборную царкву ў гонар Св. Тройцы, якая без істотнага рамонту і перабудоў прастаяла да пачатку XX стагоддзя. За гэтыя ўчынкі імя Сымона Караля Агінскага было ўпісана ў манастырскі сінодзік побач з імем заснавальніка манастыра старца Марка.

Князь-фундатар абраў для пабудовы выразны ўзор мясцовай (віцебскай) школы драўлянага дойлідства — крыжова-цэнтрычны ў плане, чатырохзрубны храм, кожны са зрубаў якога быў накрыты асобным шатровым дахам. Унутры шатроў кроквенный канструкцыі былі зроблены васьмігранныя самкнутыя скляпенні на ветразях. Звонку сцены сабора былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і напалову закрыты абходнай галерэяй з разьбянымі слупкамі і гарызантальным дашчатым парапетам, якая апярэзвала будынак.

Адметнасцю царквы былі яе заходнія ўваходныя дзверы. Калі большасць тагачасных дзвярэй аздаблялася толькі геаметрычнай шалёўкай і акоўкай жалезам з цвікамі-разеткамі, дзверы Троіцкай царквы мелі выгляд царскай брамы, багата ўпрыгожанай разьбой і паліхромным жывапісам з сімвалічнымі выявамі чатырох евангелістаў і Св. Тройцы. Апроч таго, на дзвярах быў выразаны герб „Агінец" — родавы знак князёў Агінскіх, вакол якога размяшчаліся лацінскія літары: S.K.O.M.W.X.L.P.W., што азначалі імя і тытул фундатара храма: Сымон Караль Агінскі, мечнік Вялікага княства Літоўскага, падкаморы віцебскі.

На пачатку XVIII ст. унутраная прастора саборнай царквы была распісана. Роспіс пакрываў сцены царквы ад падлогі амаль да самых верхніх кропак купала і быў выканаaны алейнымі фарбамі на палатне, наклееным на гладка абчэсаныя брусы. „Агледзьцеся толькі ўважліва і з глыбокай пашанай, — пісаў у канцы XIX ст. іераманах Маркава манастыра айцец Сергій, — і вы прачытаеце тут усю Св. Біблію, даведаецеся ўсю гісторыю, і старазапаветную, і евангельскую, і ўсёй ваяўнічай Царквы на зямлі, да заканчэння самых апошніх часоў яе існавання, якія адкрыты ў Апакаліпсісе". Увесь жывапісна-дэкаратыўны цыкл складаўся са 158 кампазіцый і 10 выяў святых па баках кліросаў. Кожны з сюжэтаў быў заключаны ў прамавугольную маляваную рамку з раслінным арнаментам і меў подпіс на старажытнаславянскай мове. Архіўныя дакументы захавалі імёны двух аўтараў роспісу — мясцовага майстра Паўла Ігнатовіча і адпушчанага на волю прыгоннага муляра Івана сына Сяргеева. Як адзначылі даследчыкі, якім давялося бачыць размалёўку царквы, у складанай кампазіцыі, простанародным характары тыпаў, імкненні да дакладнай жыццёвай трактоўкі асобных персанажаў можна было прасачыць сувязі роспісу з народнай творчасцю — выявамі, якія сустракаюцца на прадметах побытавага ўжытку і прыладах працы.

*(заканчэнне будзе)*

**Людміла Хмяльніцкая,**
**Віцебск**

# Праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI — XVIII стагоддзях

Гісторыя праваслаўнага школьніцтва ў Беларусі сягае XI стагоддзя. Пры вялікакняжацкіх дварах і епіскапскіх кафедрах існавалі школы, якія сваім абсягам ахоплівалі невялікі працэнт тагачаснай грамадскай эліты. Пра школу перапісчыкаў і канапісцаў пры манастыры Святога Спаса ў Полацку, заснаваную св. Еўфрасінняй (1110-1173) згадваюць аўтары яе агіяграфіі. Школы пры епіскапскай кафедры і пры манастырах існавалі ў Тураве ў той час, калі тамашнім епіскапам быў св. Кірыла Тураўскі (1169-1183). Быў гэта вынік гаспадарчага і культурнага развіцця ў канцы XII і XIII стагоддзях. Важную ролю ў гэтым працэсе адыгралі святыя полацкія епіскапы: Міна (1105-1116), Дзіянісій (1166-1187) і Сіміон (1266-1289), а таксама тураўскія епіскапы: Кірыла і Лаўрэнцій (1182-1194).

Развіццё манастырскага і прыхадскога школьніцтва прыйшло толькі ў канцы XV і ў XVI стагоддзі разам з агульным развіццём асветы ў Вялікім княстве Літоўскім. У перыяд ренесансу з'явілася ў Беларусі школьніцтва пад патранатам мяшчан і царкоўных брацтваў. Развіццё асветы ў гэтым перыядзе было невыпадковае, таму што прыпадала на перыяд рэлігійных спрэчак і змагання за захаванне ўплываў паасобных Цэркваў. Праваслаўным трэба было супрацьстаяць ідэалагічнаму ціску рымскіх каталікоў і прадстаўнікоў рэфармаваных канфесій. Школьніцтва, паводле тадышніх іерархаў праваслаўнай Царквы, мела адыграць важную ролю ў захаванні тоеснасці вернікаў. Брэсцкая унія ўзмацніла культурна-грамадскую актыўнасць беларускага насельніцтва праваслаўнага веравызнання. Абарону ўласнай веры, літургіі, царкоўнаславянскай мовы можна было здзейсніць толькі пры дапамозе ўласнага школьніцтва і друкарняў. Узнікненне брацкіх школ пры манастырах і прыходах было выклікана не толькі патрэбамі Царквы, але таксама неабходнасцю выхавання маладога пакалення ў праваслаўным духу. Нічога затым дзіўнага, што ў II палове XVI стагоддзя поўнасцю змяніліся характар і роля школ. Пачатковa прыхадскія школы вучылі некалькіх вучняў, а настаўнікамі былі настаяцелі і дзякі. У школах гэтага тыпу вучылі чытаць літургічныя тэксты, знаёмілі з парадкам царкоўных багаслужбаў і вучылі спеваў. Выхаванцы прыхадскіх школ трапялі ў духоўны сан або выконвалі дапаможныя функцыі.

У манастырскіх школах апрача навукі чытання і спеваў вучылі царкоўнаславянскай, рускай, а некалі і грэчаскай ды польскай моў. Абсяг навукі абмежаваны быў ведамі манахаў. Такія школы працавалі пры гарадскіх цэнтрах, у якіх была вялікая патрэба ў адукаваных кадрах. Вялікія цэнтры манаскага жыцця, якія знаходзіліся далёка ад гарадоў, такіх школ на беларускіх землях не мелі.

Самае вялікае значэнне для развіцця праваслаўнага школьніцтва ў Беларусі мелі асветныя ўстановы, якія арганізаваліся царкоўнымі брацтвамі. Першая брацкая школа ўзнікла ў 1584 г. у Вільні. Стэфан Баторый даў брацтву прывілею, у якой загадаў заснаваць школу, у якой навучалі б рускай, грэчаскай, лацінскай і польскай моў. Неўзабаве ў Вільні ўзніклі дзве элементарныя школы і першая на гэтых землях праваслаўная гімназія з гуманітарным ухілам. Віленскія школы сталі прыкладам для іншых брацкіх школ. Прывілея Стэфана Баторыя для віленскага брацтва ў 1585 г. была распаўсюджана ... (расцягнута) на ўсіх праваслаўных вернікаў. Дазвалялася тады будаваць бальніцы і школы „з драўніны, як і з каменя". Важнае значэнне для развіцця школьніцтва мела пастанова брэсцкага сабора ад 26 чэрвеня 1594 г., каб кожны сінод епіскапаў з духоўнымі асобамі „ў пісьме Божым вучонымі" побач царкоўных спраў разглядаў пытанні навукі і школьніцтва. На тым жа саборы епіскапы абавязваліся адкрываць у сваіх епархіях брацкія школы, друкарні і бальніцы. Згодна рашэнням сабора, у кожным горадзе павінна быць толькі адна школа, а на іх утрыманне мітрапаліт, епіскапы і ігумены кожны год павінны адводзіць 1/10 частку сваіх даходаў. Брацкія школы ў Вільні і Львове апынуліся пад аховай епіскапаў. Іншыя школы пры цэрквах і манастырах маглі вучыць толькі двух або трох вучняў як памочнікаў для духоўных. Некалькі месяцаў пазней князь Канстанцін Астрожскі папракаў епіскапаў, што „рашэнні брацкіх сабораў па справах школ, друкарняў і іншых важных для Царквы суб'ектаў зусім не выконваюцца". Уладыкі супрацьставіліся перадачы школ у рукі свецкіх асоб, таму 2 жніўня 1595 г. атрымалі ад Зыгмунта III Вазы прывілею, у якой кароль расцягваў іх уладу над брацтвам і даваў ім выключное права „на адкрыванне школ і семінарый грэчаскай і славянскай моў".

Рашэнні сінода ад 1594 г. неахвотна выконваліся іерархіяй, якая баялася выхаду царкоўнага школьніцтва з-пад яе апекі. Непрыязнае праваслаўнаму школьніцтву было рымска-каталіцкае духавенства, якое баялася канкурэнцыі для сваіх школ і ломкі манаполіі на адукацыю рускай моладзі. Зыходзячы з гэтага, царкоўныя брацтвы, што ўзніклі на пераломе XVI і XVII стагоддзяў, галоўнай мэтай сваёй дзейнасці палічылі адкрыванне школ. Менавіта яны адыгралі галоўную ролю ў развіцці асветы сярод рускай грамадскасці. Асаблівае значэнне мелі згаданыя віленскія школы: пры брацтве і манастыры Святой Тройцы і Святога Духа. У віленскай брацкай школе выкладчыкамі былі, між іншым, Стафан Зізаній, Кірыла Лукарыс, Іван Барэцкі, Лаўрэнцій Смятрыцкі, Феафіл Леантовіч. Школа выпусціла многіх выдатных рэлігійных і культурных дзеячаў. Яе выпускнікі былі выкладчыкамі ў іншых брацкіх школах у Вялікім княстве Літоўскім.

*(працяг будзе)*

**Антон Міраноўіч**

# Пра блуднага сына

*(Лукі, 15:11—32)*

Чарговая падрыхтоўчая нядзеля перад Вялікім Постам называецца *нядзеляй пра блуднага сына.* У гэты дзень чытаецца ўрывак з 15-га раздзела Евангелля паводле Лукі, лірычную, хвалюючую прытчу пра раскаянне блуднага сына. Гэты евангельскі сюжэт — адзін з найбольш папулярных і глыбаказмястоўных. З прычыны сваёй звышчасовай, псіхалагічнай праўды прытча стала тэмай выдатных літаратурных і мастацкіх твораў, у тым ліку славутай карціны Рэмбранта. „У аднаго чалавека, — чытаем у Евангеллі, — былі два сыны; і сказаў малодшы з іх айцу: Бацька, дай належную мне частку маёмасці... І праз нейкі час малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкую старану і там змарнаваў маёмасць сваю, жывучы блудна". Калі растраціў усё і ў краіне той настаў голад, спазнаўшы нястачу і прыніжэнне, ён апамятаўшыся вырашыў: „Устану, пайду да бацькі майго і скажу яму: Ойча, я зграшыў перад небам і Табою і ўжо нявартым называцца сынам Тваім; прымі мяне як аднаго з наймітаў Тваіх... І калі ён быў яшчэ далёка, згледзеў яго і зліітаваўся, і пабегшы, кінуўся яму на шыю і цалаваў яго". Потым бацька загадаў адзець сына ў найлепшую вопратку і наладзіць банкет. У адказ на абурэнне другога сына, які ўвесь час верна служыў бацьку, не атрымоўваючы за гэта ніякай узнагароды, бацька сказаў яму: „Сын мой, ты заўсёды са мною і ўсё маё — тваё; а з таго трэба цешыцца і весяліцца, што брат твой быў памёршы і ажыў, прападаў і знайшоўся".

Хрыстос расказаў тры падобныя прытчы: аб страчанай драхме, аб авечцы і аб сыне, але страту сына Ён асабліва падкрэсліў. Згубленую манету можна знайсці або абысціся без яе, страчаную авечку можна знайсці і прыгнаць у загараздь, але страчанага сына ў хату немагчыма загнаць. Ён добраахвотна пакінуў бацькоўскі дом і добраахвотна павінен вярнуцца.

Здарэнне апісанае ў прытчы вельмі праўдзівае. Не адзін бацька або маці перажылі падобнае. Збунтаваныя падлеткі неадноўчы пакідаюць бацькоўскі дом у пошуках самастойнасці і свабоды. Нацешыўшыся сваім бескантрольным жыццём і вясёлай кампаніяй, растраціўшы ўзятыя з хаты грошы, яны засаромленыя вяртаюцца дахаты і бацькі, забываючы ўсё, прымаюць іх рады, што вярнуліся прынамсі жывыя і здаровыя.

На прыкладзе бацькоўскай любові Хрыстос паказаў Божую ўсёдаравальнасць, што Бог з радасцю прымае кожнага блуднага сына, які ўсвядоміў сваё падзенне і вырашыў паправіцца. Святое Пісанне падкрэслівае, што Бог любіць чалавека непараўнальна болей, чымсьці родны бацька або маці. „Ці ж забудзе жанчына грудное дзіцё сваё? Але калі б яна забыла, дык я не забуду цябе", — сказаў прарок ад імя Божага. Неаднойчы людзі грэбуюць божымі запаветамі, адкідаюць маральныя законы і легкадумна растрачваюць сваё духоўнае багацце. Бог аднак, быццам бацька, цярпліва чакае таго дня, калі падахвочаны жахлівай пустатой у душы чалавек вырашае змяніць сваё жыццё. Бывае, што з'яўляецца дакор сумлення, агіда да сваіх паступкаў. Неаднойчы адбіраецца ў іх усё, на чым абапіралася іх ганарыстасць. Часам трэба раптоўнага ўдару, каб у самападмане сваімі поспехамі, усёдазволенасцю і самаўпэўненасцю чалавек спакарнеў і ўсвядоміў сваю памылку. Зіноўеў, старшыня Камуністычнага Інтэрнацыянала, пакінуў сваё яўрэйскае асяроддзе і насміхаўся над яго традыцыямі і верай. Калі аднак памiраў па загаду Сталіна, яго апошнімі словамі былі: „Слухай, Ізраіль, наш Бог — адзіны Бог". Ярaслаўскі, старшыня Лігі бязбожнікаў, заявіў перад смерцю: „Спаліце ўсе мае кніжкі. Глядзіце, Бог тут... Ён чакае мяне... Спаліце ўсе мае кніжкі". Одум у іх выпадку з'явіўся запозна: скончылася кар'ера і скончылася гульня. Усё, што яны прапаведавалі і як жылі, было дорэ да пары...

Блудны сын таксама спярша страціў грошы, потым сваю вясёлую кампанію, потым не было нават працы дзеля пражыцця. Апынуўшыся на дне прыніжэння, ён зразумеў колькі страціў адмаўляючыся ад папярэдняга жыцця, калі ўсё было простае, бяспечнае і яснае.

Гісторыя блуднага сына — гэта біяграфія кожнага грэшніка, якімі ў той або іншай ступені з'яўляемся ўсе мы. Евангельскі сын доўга блудзіў, але ў пару раскаяўся. Да гэтага напярэдадні Вялікага Посту Царква заклікае і нас.

**а. Канстанцін Бандарук**

Якія мы людзі

# Каўбаска

Калі ў чалавека бывае добры настрой? Вядома, калі скончыць нейкую работу. Задаволеная сабою, я выйшла з рэдакцыі. Нарэшце здала ў чарговы нумар „Нівы" доўга пісаны матэрыял. Нібы справа маленькая, для іншых неістотная, а ў мяне звалілася гара з плеч. Ды і радасць якая: шэф не адбярэ прэміі за ненапісанне запланаванага матэрыялу! Невядома чаму, хацелася ўсміхацца кожнаму сустрэчнаму, гаварыць з людзьмі.

У „Дэлікатэсах", якія па-суседску з рэдакцыяй, я падышла да каўбаснага аддзела. Было ўжо каля пятай, а людзі ж часцей за ўсё робяць пакупкі а 2—3 гадзіне, адразу пасля працы, ды і то купляюць не кілаграмамі, а скрылёчкамі. Пераcталі любіць шынку, ці што... Дзве свабодныя прадаўшчыцы з надзеяй спаглядалі на неквапячыхся да мяса пакупнікоў.

Я падышла, шчаслівая, да прылаўка і з разгону ўзяла ладны кавалак сухой кракаўскай каўбасы, а для раўнавагі — кавалак сальцісону. Калі я хавала ўсё гэта ў сумку, пачула ззаду жаночы голас: „Скажыце, а ўкусная эта каўбаска?"

Я адвярнулася. За мною стаяла жанчына, а побач з ёю, не ў чарзе, — другая. Мне стала ясна, што прыехалі яны з недалёкага замежжа. На такой беларуска-рускай „трасянцы" гавораць там сёння нашы браты-беларусы з вёскі. Калі б нават нейкая тутэйшая жанчына хацела пра нешта спытацца па-беларуску, дык ніколі б не сказала: „укусная"; сказала б: „смачная", ды і не „эта".

Відаць было, што гэтыя жанчыны не частыя госці ў Польшчы. Карацей — не гандлёвыя людзі. Вунь заўчора, бачыла я, падышла адна, па-руску папрасіла дзесяць каўбас „салямі" ды дзесяць пачак нарэзанай шынкі і пайшла. Ёй не прывыкаць. А гэтыя бабы ніякавата адчувалі сябе ў нашым „вялікім свеце". Праўда! Гэта калісь усё казалі, што „курица — не птица, Польша — не заграница!" А цяпер, бач, нават прымаўку новую прыдумалі: „Океана не переплывал, а в Америке побывал!"

Я пачала паясняць жанчыне, якая гэта каўбаска — тая сухая кракаўская, а яна, пачуўшы беларускую мову, давярліва стала пытацца пра іншыя гатункі, а нямала іх сёння ёсць, што і гаварыць. Я ахвотна, што ведала, раз'ясняла ёй.

У той час да другой прадаўшчыцы падышла іншая кліентка і папрасіла нарэзаць ёй дзесяць дэкаў „салямі". Жанчына, стаячая за мною, ужо смялей запытала ў мяне: „А што гэта яна робіць гэтай машынай, разбівае кавалкі, каб былі танчэйшыя?"

У мяне сціснулася сэрца. Бадай не бачыла яна яшчэ такой „машыны". Не, кажу, яна проста тоненька нарэзвае!

І ў гэты момант я адчула штуршок. Нехта падышоў да мяне ззаду і „перасунуў" мяне злева направа, туды, дзе стаяла жанчына, якая не ведала, якую каўбаску варта купіць. „Перасунуў" нядбала плячом, быццам адкінуў нейкіх інтрузаў, непатрэбнае смецце са сваёй дарогі. Я падумала, што мо гэта нейкі п'янчуга ці забіяка, але, глянуўшы налева, убачыла даволі элегантную і маладую паню. На выгляд — ніякі не бандыт, нават не хам!

„Kupujecie czy nie!" — тонам жандара пацвердзіла панюся свой жэст. Яна толькі што падышла і не заўважыла нават, што я ўсё ўжо купіла. Хацела абавязкова, каб абслужыла яе гэтая прадаўшчыца, хаця другая ўжо стаяла свабодная. Не, нават не сказала: „Kupiją panie czy nie?", або прынамсі: „Kupujecie panie czy nie?", а павінна была гэта зрабіць. Відаць, лічыла, што для іх было б зашмат гонару. Хапіла: „Kupujecie czy nie?!"

А мо проста шкада ёй было кавалка каўбаскі, які паедзе, магчыма, за граніцу. Панюся, відаць, не заўважыла, што часы змяніліся. Раней жа мы ўсё казалі: нам і самім мала! Але цяпер?! Цяпер табе прадалі б і ўсё адразу, абы хтось захацеў купіць. Мяска чакае ў гаспадароў, скупляюць ад іх усяго стольки, колькі змогуць прадаць. Ды часта і ў крамах мяса залежваецца, пакуль не счарнее. Марозіцца яно, размарожваецца, ізноў яго марозяць... А няхай сабе сохне, чарнее, гніе! Але за мяжу не паедзе і ўсё. Не аднімуць яго ад рота чароўнай панюсі!

Перад маімі вачамі ўсплыло цалкам нядаўняе мінулае, калі мы ездзілі за пакупкамі туды, а яны толькі дзівіліся, колькі гэта палякам трэба золата, каб жыць. Усё павывозілі! — наракалі. Памятаю, як па мінскіх установах хадзілі панюсі са штонікамі ў руках, ды прапанавалі іх купіць. Калісь, дальбог, адна стаяла на праспекце і прадавала... прэзервативы.

А тыя перапоўненыя цягнікі, дзе не было чым дыхаць! Бабы, мужчыны з пакункамі, лезучыя ў вагоны па галовах... Бліскучыя спацеўшыя ілбы, шчасце на тварах, калі „ўдалося". І тыя вечныя размовы пра грошы, пра тое, дзе што купіць, пералічэнні — выгадна ці не, быццам бы свет канчаўся на тым, каб напхаць сваю кішку.

**Яны** — наогул людзі цярплівыя. Толькі зрэдку хтосьці, глядзячы на ўсё гэта, вылаяўся матам. Ну, і часам больш кемлівы мытнік апаражніў кішэні ненасытных падарожнікаў. Рэдка такое здаралася, але бывала. Тады была роспач, праклёны, прашэнні. А так... усё ішло гладка.

Па яду ездзілі ў Гародню штотыдзень. Колькі ж тут тае язды цягніком ці аўтобусам! Часамі на адзін і той жа білет некалькі разоў з'ездзіць удавалася. Вазілі не толькі каўбаску ці сырок, але і агуркі, і смятану, і хлеб. Усё нам смакавала, ой як смакавала! А найбольш таму, што было таннае.

І людзі тады былі братамі. А цяпер?

Я яшчэ раз глянула на вульгарную панюсю, якая штурхнула мяне так, што я ледзь не наляцела на жанчыну з Беларусі, і вылез з мяне нейкі звер. „P-proszę mnie nie po-py-chać!" — выцадзіла я праз зубы, але так, што пасаромелася за самую сябе.

Панюся адскочыла ад мяне, як апараная, глянула са здзіўленнем і, зразумеўшы, відаць, што я — беластачанка, ціхенька стала каля другой прадаўшчыцы.

Больш каментарыяў не было. Усім стала няёмка.

Нездарма ў папярэднюю ноч мне прысніўся кепскі сон.

**Ада Чачуга**

# Радзіма — Родзіна

### Частка XLII

Прадаўжаю перадаваць выказванні Фёдара Баршчэўскага, які хаця і прызнаваў, што родны край вельмі істотны ў жыцці кожнага чалавека, то ўсё ж такі лічыў, што беларусы не збудуюць незалежнай дзяржавы і павінны быць у адной дзяржаве з рускімі. Выразна шкадаваў, што развальваецца Савецкі Саюз і быў пераканаены, што амаль усе чалавечыя няшчасці звязаны з гэтым развалам.

„Ты мне тут гаворыш, што Савецкі Саюз і так, і так мусіў бы разваліцца. А чаму ён павінен разваліцца? То ж у Амерыцы таксама жыве сто народаў і яна нават і не думае разваліцца. То чаму якраз мусіт разваліцца Савецкі Саюз. То я табе скажу, чаму ён мусіт разваліцца. Таму, што дарваліся да ўласці сукіны сыны Гарбачоў і Ельцын. От яны і развалілі ўсё кібеніманцеры, мой пане. А знаеш у чом тут дзело? У том, што каб быў Савецкі Саюз і разны кантролі, то ім ні пазволілі б збагацеці так, што яны самы ні знаюць куды багацтво дзеваці. От, усё дзело ў гэтым, што у том беспарадку, каторы стварыў Гарбачоў і Ельцын, ніхто ўжэ ў нічым ні разбіраецца. Адным словом дзеры-беры. От гэты маладцы і награбілі толькі, што хваціт ні толькі ім, але іх дзецям, унукам і праўнукам.

А што касаецца простага народу, то ён папаў у такую бяду, што ўжэ сам ні знае што думаці і каго паддзержваці. А хто гэто ўсё нарабіў? Панятно, што ні сам Гарбачоў і Ельцын. Нібось, іх то хутко можно было ў кутузку пасадзіці. Але бачыш, за імі стаіт Амерыка. Амерыка баялася сільнае Расеі. Ёй патрэбна Расея разбіта, слабая і падзелена. От, то амерыканцы і знайшлі гэтых жулікоў Гарбачова і Ельцына і прыдумалі гэты ўсе незалежнасці. Ну і цяпер пойдзе рускі на грузіна, беларус на літоўца, украінец на узбека а амерыканец будзе стаяці збоку і цешыцца, што дуракі паміж сабою дзяруцца, мой пане.

Ты мне тут гаворыш незалежнасць, незалежнасць. Ну то што, ты разумнейшы за сваго бацька, і дзеда, і прадзеда. То ж мы ўжэ тысячу лет разом з рускімі, то і цяпер трэбо быці разом з імі. Калі будзем разом, то ні амерыканец, ні немец на нас не наваліцца, але калі будзем аддзельна, то нас як сляпых кацянят у пропубку пакідают.

Ты ж помніш як прышла Красна Армія ў 1939 року. То ж вінтоўкі мелі на вяровачках, а ногі ў абмотках. А помніш, якія былі немцы ў 1941 року. То ж былі адзеты як з-пад голкі. Усё новэ і мундзіры, і чобаты, і цехніка аж зіхацела, і ўсе з аўтамацікамі. То ж яны лупілі савецаў як самі хацелі. Толькі пер'е ляцело. А што после сталасё? Саветы расхвасталі немцоў і Берлін узялі. А чом так сталасё? А том, што ўсе: і рускі, і беларусы, і ўкраінцы, і грузіны, і узбекі былі разом. То што ты думаеш, самы беларусы абаронят тваю незалежнасць? Мы ж беларусы ніколі за гэту сваю незалежнасць ні ваявалі. А калі ні ваявалі ў прошлом, то ні будзем умеці ваяваць і ў будушчым. Глянь толькі, твой бацька ваяваў за цара, Ясько з Рыбакоў за савецаў у акцябрскую рэвалюцыю, я за палякоў у 1939 року, Ванька Бэкасаў з Рыбакоў вывезены на работы ў Германію быў вызвалены амерыканцамі і дзе ваяваў? Ваяваў і згінуў у Карэі ў 1951 року. А хто ваяваў за незалежну Беларусь з нашых людзей? Ніхто! Толькі Карэтка расказвае свае сказкі пра тое, як ён ахраняў там якісь незалежны з'езд у Мінску. Калі б гэто нават і было праўдаю, то што з гэтаго? Нічого. Мы ні ўмеем ваяваці за беларуске гасударство. А калі народ ваяваці за свае гасударство ні хочэ і ні ўмее, то, мой пане, з гэтаго дзела нічого ні будзе. Я то думаю, што жменька чудакоў у Беларусі пагуляе, пагуляе ў гэтэ незавісімо гасударство, а народ і так пойдзе з рускімі. Такая, мой пане, у нас думка. Я і табе скажу, што калі б твой дзед чы бацько пачуў, што ты тут гаворыш пра гэту незалежнасць, то ён табе даў бы такого чосу, што ты ні знаў бы куды дзевацца. Мы беларусы, то табе ні палякі, што кажду нідзелю ў касцёлах за незалежнасць моляцца. У нас ні адзін па-беларуску ні дзвэнкне, то дзе табе тут можэ быці рэч пра якуюсь там незалежнасць. Смешно і больш нічого, мой пане".

**Алесь Барскі**

# ВЯСЁЛАЯ ПАЛІЦЫЯ

Ужо некалькі гадоў, як сваю паліцыю можа ствараць прэзідэнт кожнага горада. Заканадаўства нічога не ўспамінае пра гмінную паліцыю, але нідзе не знойдзеш пра забарону солтысам арганізаваць нейкую вясковую службу бяспекі. А што не забаронена законам, тое дазволена. Калі б тады, напрыклад, солтыс у Задрыпанцы меў грошы, праўдападобна змог бы стварыць камісарыят паліцыі з толькі сабе падпарадкаваным камендантам. Паліцыянты такія пільнавалі б, ці хто ў акалічных крамах не п'е забароненых законам (вясковым) напіткаў, ці гаспадар не затрымаў сваю фурманку ў месцы, у якім лакальная ўлада забараніла затрымлівацца, напрыклад, каля канцыляріі солтыса. Зразумела, што ўсе гэтыя правілы грамадскага жыцця павінны быць раней узаконены пастановай нейкай рады, галасаваннем, пячаткамі і г.д. Можа ўсё гэта выглядае як анекдатычнае апавяданне пра сітуацыю, якая не прыстае да рэчаіснасці, але, напрыклад, у Беластоку гмінная паліцыя дзейнічае і не аднаго жыхара горада ўжо нядрэнна развесяліла. Вось, напрыклад, хай хтосьці паспрабуе прыпыніцца на сваім „Фіаце" ці „Трабанце" пры шашы званай вуліцай Цыялкоўскага ў ваколіцы базару. Недзе ў кустах, насуперак усякай логіцы, вісіць дарожны знак, які забараняе там прыпыняцца. Не паспее аднак шафёр выключыць рухавік і паставіць нагу на балоцістую ды заснежаную зямлю, як ужо стаіць каля яго дзядзька ў нейкай чорнай уніформе і прадстаўляецца: „Страж мейска". „Мандат" са штрафам стражнік ужо мае выпісаны, астаецца яму толькі дапісаць нумар самахода. Можна, зразумела, з ім не пагаджацца і размову працягваць у судзе званым „калегіумам" па справах правапарушэнняў, але аматараў такіх дыскусій з гміннымі паліцыянтамі наогул няма. Кожны шафёр найчасцей адразу плаціць 10 злотаў штрафу і без слова развітваецца з нахабнікамі.

У гэтым годзе, як вядома, зіма зноў неспадзявана заатакавала безабаронныя, ні ў чым не вінаватыя дарожныя службы, якія толькі недзе ў пачатку новага года зарыентаваліся, што іх галоўны вораг — снег, які невядома чаму нападаў, можа часам не захацець сам знікнуць, — нападаў вось і невядома чаму так ляжыць. Былі дні, калі ў Беластоку пры вуліцы Сураскай, дзе знаходзіцца між іншым рэдакцыя „Нівы", тратуар і вуліца зліваліся ў адно і толькі дрэўцы дазвалялі арыентавацца, дзе ёсць мяжа, якая раздзяляе шляхі руху людзей і аўтамабіляў. Ніхто не быў у змозе акрэсліць дакладна, дзе пад тоўстым пластом снегу сутыкаюцца дарога і тратуар. Ужо амаль год стаіць пры гэтай вуліцы знак, які забараняе ўязджаць на тратуар. Гмінная паліцыя мела ў той час сваё жніва. Невядома, у які спосаб стражнікі арыентаваліся, ці аўтамабілі пераcеклі забароненую лінію, але кожны другі шафёр атрымаў запрашэнне на камісарыят па вуліцы Тувіма ў Беластоку. Трапіў туды і ніжэйпадпісаны.

Размова з шэрыфам, адказным за парадак на вуліцы Сураскай, выглядала так:

— У мяне тут ёсць нейкае запрашэнне да вас.

— Так, вы наехалі пярэднімі коламі на тратуар, а гэта забаронена.

— Я па ніякім тратуары не ездзіў, куча снегу не дазваляе нават прыблізіцца да яго.

— Вось менавіта, вы наехалі на кучу снегу, а пад ёю ўжо пачынаецца тратуар; мы з калегам правяралі кожны аўтамабіль, ваш таксама. Амаль 40 сантыметраў вы задалёка заехалі! А вы павінны адгарнуць, хаця б нагою, гэты снег, і тады зарыентаваліся б, дзе пачынаецца тратуар. Гэтым разам я выклікаў вас толькі для павучання, наступным разам будзе штраф!

Выйшаўшы з камісарыята, я яшчэ раз агледзеўся за сябе і праверыў, ці не быў я часам у... ну, дзе менавіта?

**Васіль Кургановіч**

## Позірк у мінулае

**11 лютага**

1847 г. — нар. Томас Эдысан, амерыканскі вынаходца электралямпы.

1889 г. — прыняццё першай японскай канстытуцыі; Японія стала канстытуцыйнай манархіяй.

1931 г. — памёр Чарльз Парсанс, англійскі вынаходца паравай турбіны.

1975 г. — Маргарэт Тэчэр узначальвае Кансерватыўную партыю ў Вялікабрытаніі.

1990 г. — паўднёваафрыканскі змагар за правы неграў Нельсан Мандэла пасля 28-гадовага зняволення выйшаў на свабоду.

**12 лютага**

1798 г. — памёр Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні польскі кароль.

1804 г. — памёр Іmануіл Кант, нямецкі філосаф.

1809 г. — нар. Чарльз Дарвін, англійскі прыродазнавец.

1961 г. — старт „Венеры-1", першай савецкай міжпланетнай станцыі, якая пасля трох месяцаў праляцела побач аднайменнай планеты.

**13 лютага**

1754 г. — нар. Талейран, французскі дыпламат.

1945 г. — бамбардзіроўка Дрэздэна брытанскай авіяцыяй; горад поўнасцю разбураны.

1960 г. — выбух першай французскай атамнай бомбы на Сахары.

1974 г. — выдаленне Аляксандра Салжаніцына з СССР.

**14 лютага**

869 г. — памёр св. Кірыла, славянскі апостал.

1876 г. — Аляксандр Бэл збудаваў першы тэлефон.

1918 г. — у Расеі ўведзена грыгарыянскі каляндар замест юльянскага.

1944 г. — канец блакады Ленінграда; вызваленне Ноўгарада.

1956 г. — на XX з'ездзе КПСС Нікіта Хрушчоў раскрыў культ Сталіна.

**15 лютага**

1971 г. — Вялікабрытанія і Ірландыя ўвялі ў грашовыя сістэмы дзесятковае злічэнне.

**16 лютага**

1908 г. — у Пецярбургу адбыўся першы чэмпіянат свету па фігурнаму катанню на каньках.

1922 г. — у Гаазе распачаў працу Міжнародны трыбунал.

**17 лютага**

1772 г. — у Пецярбургу падпісана трактат паміж Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй аб першым падзеле Польшчы.

**(Ш)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мне, Астроне, прысніўся дзіўны сон. Спачатку нібы нават быў ён някепскі, бо пайшла я ў лес, і лес быў даволі прыемны, зялёны. Раптам бачу ў гэтым лесе туалет, звычайную будку, такую вясковую, драўляную. Я ўваходжу ў гэты туалет, сядаю і раптам бачу звісаючых са столі змей. Яны ўюцца, сычаць. Я баюся. Што гэта абазначае?

**Ліда**

Астронку, сніцца мне, быццам я знаходжуся ў кватэры сваёй дачкі. Сяджу на кухні, а разам са мною госці з-за граніцы. Муж і жонка, гэта я ведаю, але не ведаю, з якой яны краіны. Я іх нечым частую, але не скажу табе, чым. Раптам уваходзіць на кухню мая бабуля-нябожчыца, а за ёю — мая сястра, якая таксама памерла. Уваходзяць абедзве разам ды адразу да мяне з прэтэнзіямі. Чаго я, маўляў, чужымі людзьмі займаюся, калі яны прыехалі! Я гляджу на іх са здзіўленнем: адкуль гэта яны з'явіліся, я ж зусім нічога не ведала, што яны да нас прыехалі.

Іду з імі ў пакоі, а там усюды падлога памытая, яшчэ нават вільготная. Божачкі! У нас жа заўсёды казалі, што мыць падлогу — нехта назаўсёды змыецца. Што будзе?

**Ніна**

Ліда! табе здавалася, што ўсё ў цябе будзе складацца надта добра, сама ж пішаш, што пайшла ў прыгожы, зялёны лес. А тут на табе: туалет; смярдзючая справа. А на дадатак тыя змеі, якія так напужалі цябе, абазначаюць, што той смурод выклічуць, бадай, твае хітрыя і злосныя ворагі.

Ніна! Сумна мне аб гэтым табе паведаміць, але, бадай, твае прагнозы маюць шмат супольнага з рэчаіснасцю.

**Астрон**

## ВІРАВАНКА

1. выспа ў заходняй частцы Філіпінскага архіпелага, 2. напр. Вена, 3. прыбор для кіпячэння вады, 4. горад над Віслай, 5. „парасон" для спуску людзей з самалёта, 6. інертны газ, 7. чыноўнік, які выконвае паліцэйскія функцыі, 8. сукупнасць звязаных паміж сабой элементаў, 9. перыяд гісторыі Усходняга Міжземнамор'я і Прычорнамор'я ад заваёвання Аляксандра Македонскага да 30 г. да н.э. 10. вежа мячэці, 11. калектыў з пяці выканаўцаў, 12. горад між Генуяй і Рымам.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на святочны касяк з 52 н-ра:**

**Направа:** Гамора, Ларнака, ягнятка, астрог, піва, арабеска, дэльта, Нагорная, акафіст, атрыбут, улем, Сыс, опус.

**Налева:** Галіяф, мерынос, рэактар, Анат, Паданг, трапар, Вульгата, опера-буф, тэрцыны, Аквілея, Ашур, сто, Сеул.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Маёнтак

Да 1939 года ў нас на Баравіках быў маёнтак. Яго ўласнікам быў Мікалай Кавелін. Маёнтак гэты ахопліваў не толькі Баравікі, але таксама Каменку і Маёўку і лес аж пад сам Супрасль. Зямлю на Баравіках і ў Каменцы абраблялі ўручную парабкі. Было чатырох парабкаў і чатыры пары коней. Кароў пераганялі летам з Каменкі ў Баравікі. На выгляд то Мікалай Кавелін не быў прыгожы, але быў, як людзі гавораць, прыгожы душою. Калі хто з мужыкоў што-небудзь у яго папрасіў, ён ніколі не адмовіў. Школы пабудаваў у Каменцы і Рафалоўцы. Калісь, як клалі каменную маставую ад Баранавіцкай шашы да Маёўкі, гаспадары вазілі каменне, а ён плаціў грашыма, а як хто хацеў, то за фуру камення даваў фуру дроў. Бывала, леснікі дакладвалі яму, што мужыкі прывозяць на фуры пару кошыкаў каменя, а пан дае ім за гэта фуру дроў. А ён адказваў ім: камень цяжкі; што вы, не разумееце? Гаспадары з Пасынкаў і Фальваркаў мелі ў Цялічанцы і Засадах сенажаці і туды ездзілі сена працаць. Дык вядома, што едучы праз лес нехта вырубаў то насілы, то грабліска, то ручка якога. То тады такога леснікі лавілі, забіралі яму сякеру і дакладвалі Кавеліну. А ён леснікам гаварыў так: калі знаеш, ад каго забраў, дык аддай, бо яны свайго лесу не маюць. У нас, на Баравіках, жыў яго гуменны і калі ў 1939 годзе маёнтак падзялілі на надзелы, дык Кавелін за многагадовую службу даў яму многа грошай. І спытаў, што ён думае з гэтымі грашамі рабіць. Той гуменны адказаў, што хоча дакупіць зямлі і гаспадарыць. А Кавелін яму гаворыць: лепш ты ў Беластоку дом купі і будзеш жыць без гаспадаркі, бо, — гаварыў, — зямлі будзе ўдоваль, колькі хто захоча, што нават браць не будзе каму.

Такі быў Мікалай Кавелін. Гаварыў ён па-руску, а людзі вялічалі яго панам палкоўнікам.

**Аляксандр Барташэвіч**

## ПАРНАСІК

### Дні ляцяць

Скора дні ляцяць,
З маланкавай хуткасцю.
Голас нам паднясць
Ї прагу Божай мудрасці.
Дзень за днём і тыдні,
Далей месяцы...
Мо ўжо нам абрыдлі?
Зоркі на небе свецяцца
А свяціла Сонца
Нас абагравае —
Жыватворнае ваконца.
Цудоўны шлях абазначае.
Ці мы гэта разумеем,
Вялікую ласку?
У рабоце пацеем...
Адкінем эгаістычную маску!
Жывем мы як госці
На зямлі вялікай, грэшнай.
Трэба жыць радасна, без злосці,
Дабівацца да краіны вечнай.
Кожны дзень бліжэй смерці,
А час бяжыць.
Не быць нам у грахоўным смецці,
Шлях свой чыста разлажыць!
Адкінем прэч шырокую дарогу,
Пераступім на вузкую каляіну,
Змагацца з д'яблам будзем строга —
Перамажам смяротную даліну.
Гэта мэта хрысціяніна і мара —
Быць разам з Богам!
Дык няхай маразы і цёмныя хмары
Апынуцца за нашым парогам.
Год прайшоў скора,
Як адзін дзень; не апамяталіся.
Як стыхійнае мора
Плылі адчайна, не разглядаліся.
Так і жыццё праляціць —
Год за годам.
Скора смерць. Ды будзем жыць
З іншым цудоўным родам!

**Мікалай Панфілюк**

### Пажаданні

Паважання ў Новым годзе
Для ўсіх меншасцяў народа,
Тых што ў Польшчы пражываюць.
Шчасця я для вас жадаю —
Украінцам і літоўцам,
Беларусам і армянам,
Тых што знаю і не знаю
Здароўя для вас жадаю.
Для Янкі Кірызюка
Ї для Юркі Трачука,
Што пісалі і перасталі,
Век здаровы каб асталі,
Каб жылі усе шчасліва,
Каб усё было вам міла
Ї ў сямейцы і ў полі
Каб усе былі здаровы,
Каб вы „Ніву" ўспаміналі
Ї пра нас не забывалі.
Я таго для вас жадаю,
Каб жылі ўсе, як у раю.

**М. Лук'янюк**

### Гісторыя

Недзе ў дзесятым ужо стагоддзі
Хрысцілі нас, як усю Русь.
Вера адна была ў народзе.
Вялікая ці Бела Русь?

Дагэтуль рознае паганства
Жыло сярод балот, лясоў.
Ніхто не ведаў гаспадарства,
А кожны меў сваіх паноў.

Тут нашы княствы існавалі,
Пакуль не запалоніла Літва.
Ды з уніяй пасябравалі.
Вось зажыла наша братва.

Гады прайшлі, царыца Русі
Зноў у імперыю сваю.
Тым часам мы, як нейкія гусі —
Усё роўна ў якім краю.

Ды зноў пасля вайны вялікай
Народ наш Керзан падзяліў.
Ніколі нас ніхто не клікаў,
Як захацеў, так і рабіў.

У другу вайну савецка ўлада
На два гады злучыла нас,
Затым — нямецкая армада
Ну, праўда, не на доўгі час.

Вайна прайшла, нас зноў дзялілі.
Вось за мяжою Беларусь.
Мы неяк тут быццам згубілісь,
Цяпер мы ні індык, ні гусь.

**„Улас"**

**Ніва**

„Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 st. zł), a kwartalnie — 18,85 złotych (188 500 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*БАРЫС РУСКО*

## Радкі з клічнікам

На падаконніку пчаліны рой!
Дзякуй, нясу міску на мёд.

*

Адыходжу ў вечную мерзлату!
Пачакай пацяплення, больш густоўна
адзенуся на пахаванне.

*

Ты здрадзіў самога сябе!
Не, стаў відушчым.

*

Суд ідзе!
А дэмакратыя села.

*

Мумія ажыла!
Яна з вечна жывых.

*

Ну і характар!
У булёне, а ўсё ходзіць пеўнем.

*

Паспрабуй кахання!
Патушу толькі свячу.

*

Перааром увесь свет!
Пальцам па глобусе.

*

Віншую з дачкою!
О, Божа! Сёмая!

*

Мароз!
А дзе сонца? У кажусе.

*

Падае зорка!
Дык няма заступных.

# НІЎКА

Малюнак А. Папова

## Валодзя

Наш Валодзя на гародзе
Пасадзіў капусту.
Думаў: „Летам
ажанюся,
Вазьму жонку тлусту".
А калі Пасха прайшла,
Стаў жонку шукаці,
Па ваколіцы кругом
Вёскі аб'язджаці.
І куды ён не заехаў,
За ім бегла гора:
Старую браці не хацеў
Маладой — не здолеў.
Зарасла яго капуста
Пустазеллем ў пояс.
Не было каму палоці,
І то найгорша доля.
Яшчэ дзісь Валодзя
ходзіць,
Калывачом звецца.
Як задумае жаніцца,
Яму не ўдаецца.
Не сабраў свае капусты,
Зімаваць астала.
Адна дзеўка не пайшла
Другая — пенсію
дастала.
Кавалерам ён гаруе,
Трэба праўду знаці,
Бо дзеўкі ў гарады
пайшлі
Бруды падмятаці.

**Мікалай Лук'янюк**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

Юнак да дзяўчыны на дыскатэцы:
— Ці магу цябе адвесці дадому?
— Вядома! А далёка жывеш?

* * *

Матацыкліст выбраўся праехацца. З увагі на тое, што было холадна, апрануў фрэнч задам наперад. Ехаў захутка і ўпліatаваў у дрэва. Навокал сабралася грамада народу. Прыехала хуткая дапамога:
— Ці ён жывы?
— Калі ўдарыўся, то яшчэ жыў, але калі мы яму галаву перакруцілі на сваё месца — памёр.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, мушу вырваць зуб, ды так баюся, што ўжо лепей нарадзіла б дзіця...
— Тады вырашайце хутчэй, бо не ведаю, як раскласці фатэль.

* * *

Прыходзіць баба да лекара з рулём у спіне.
— Хто вас сюды накіраваў? — пытае лекар.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, я зацяжарыла...
— І што мы цяпер зробім?

* * *

Лекар да пацыента:
— Вы ведзяце нерэгулярнае жыццё; гэта мае дрэнны ўплыў на здароўе. А як у вас з піццём?
— Практыкую рэгулярна.

* * *

Псіхіятр даследуе пацыентаў:
— Колькі будзе два на два? — пытае першага.
— Пяць тысяч.
— А як ты думаеш? — пытае другога.
— Пятніца, — адказвае той.
— А па-твойму? — пытае трэцяга.
— Чатыры.
— Выдатна! А як ты гэта палічыў?
— Падзяліў пяць тысяч на пятніцу.

* * *

— Ёсць толькі адзін выхад, — гаворыць лекар да пацыента, — мусіце кінуць курэнне. За кожным разам, калі вас цягне да папяросаў, пашукайце сабе другі аб'ект зацікаўлення, напрыклад — прыгожую жанчыну...
— Што вы, пан доктар! Не дам рады. Я куру штодзень сорак.

* * *

— Татка, што гэта за птушка?
— Дзяцел.
— А што ён робіць?
— Стукае ў дрэва.
— А чаму яго не хочуць пусціць усярэдзіну?

# Жыццё Марысі Ф. з Алесем Б.

Не буду казаць вам, мілыя Чытачы, колькі гадоў кожнаму са згаданых стукнула разам і паасобку, бо ні Марыся Ф. не мае намеру ў вачах Чытачоў быць бабуляй, ні тым больш Алесь Б. дзядулем. Абое рабое — зверскі дбаюць аб лінію, жывуць толькі духоўным жыццём і адно толькі робяць, што пішуць. Праўда, Алесь Б. піша (уручную) і выдае тое, што яму напішацца, а Марыся Ф. перапісвае, аддрукоўвае чужую творчасць на машынцы або камп'ютэры. Праўда, Марыся Ф. таксама вельмі ведае родную мову ды так, што паправіць можа не аднаго *пісацеля* (выдатна закончыла бельскі белліцэй), і сама калісьці пісала ды друкавалася (слушныя і кранаючыя гісторыі пра дабрыню чалавека ў адносінах да братоў нашых меншых жывёлак), а нават дзесяць гадоў давала нябогам у „Ніве" сардэчныя парады ў той час, калі пра *габарыты* і *пазіцыі* выказвацца ў друку было непрыстойна, а цялесна-духоўнае жыццё Чытачак зводзілася да істотнага пытання, якім чынам найбольш бяспечна даць доказ любові (г. зн. ці шчочку даць пацалаваць, ці ручку). З беларускім друкам, значыць, Марыся Ф. мае дачыненне найменш ад 7.30 да 15.00 штодзень плюс у некаторыя выхадныя. Пісьменнік Алесь Б. мае дачыненне да беларускага слова нават штоночы (вершы складае пра каханне, калі не заняты іншай, больш карыснай для беларускага жыцця ў Беластоцкім краі і свеце справай), а нават у цягніку ці аўтамашыне. Час падарожжаў выкарыстоўвае Алесь Б. на пісанне на ўласных каленях сваіх фельетонаў у адрэзках у „Ніву".

Тэксты Алеся Б. непадуладны нават цэнзуры, а асабліва ягоныя арыгіналы, бо расчытаць іх не можа ніводзін ні цэнзар, ні нават нейкі нармальны сярэдні чытач, калі б нават за гэта плацілі мільён старых злотаў ад старонкі (запісанай досыць вялікімі літарамі). Тое, што бачым у „Ніве" на працягу трыццаці з гакам гадоў з творчасці Алеся Б. — гэта вынік расшыфроўчай працы Марысі Ф. Калі Марыся Ф. не ў змозе расчытаць тое, што вывеў ручкай пісьменнік, тады друкуе тое, што, як ёй здаецца, хацеў сказаць аўтар. А паколькі Алесь Б. рэдка чытае сваю друкаваную вытворчасць, прэтэнзіі да Марысі Ф. меў на працягу таго доўгага часу супрацоўніцтва толькі да аднаго: „Як вы, пані Марысё, так маглі памяняць мой фальклёр?!" Вось што нарабіла пані Марыся Ф.: у запале тэкст напісаны чыста па-бандарску ўлялюшчыла па-раенску! Ну, як на трыццаць гадоў блізкага сужыцця — вынік выдатны!

Без нагоды і гадавіны жадаю я, Вандал А., усім такога плённага, выдатнага і выгаднага супрацоўніцтва!

**Вандал Арлянскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мо камусьці будзе здавацца, што я табе пішу не на тэму, але, павер мне, гэта сардэчная справа, хаця я ўжо старая баба. Была ў мяне добрая сям'я. Быў муж і трое дзетак. Мы вельмі дбалі пра тое, каб выхаваць іх на добрых, справядлівых людзей. Ну, і, вядома, усе вучыліся, каб у жыцці было ім лягчэй.

Павывучваліся ўсе: адзін сын — інжынер, другі — лекар, а дачка — юрыстка. Лёс раскідаў іх па свеце. Сын, той, што інжынерам, трапіў на працу аж у Афрыку, а другі, лекар, працуе ў Варшаве і там жыве яго сям'я.

Жыла ў Беластоку, пры бацьках, значыцца, толькі мая дачка. У нашай хаце адбылося яе вяселле, тут нарадзілася і яе дачушка. Я, займаючыся дзіцём, перажывала другую маладосць. Ніколі ў жыцці я не працавала, усю сябе аддавала сям'і, дому, дык гэта дзіцятка дало мне надзею, што я яшчэ некаму патрэбная.

Але вось і мая дачка вырашыла выехаць з Беластока. Праўда, не так далёка, толькі дзевяноста кіламетраў ад нас, але гэта быў усё ж іншы горад. Там зяцю запрапанавалі вельмі добрую пасаду.

Я сказала адразу: дзіцяці не аддам! Куды яно паедзе, да каго? Што вы зробіце там з малою, калі пойдзеце на працу? Мой муж таксама згадзіўся са мною. Зразумей, Сэрцайка, унучка стала сэнсам нашага жыцця. Ну, проста скажу табе па шчырасці: у свае пяцьдзесят пару гадоў я адчувала сябе занадта маладой, каб не мець малога дзіцяці. Можа быў гэта эгаізм, але інакш учыніць я не магла.

Дачка і зяць згадзіліся са мною, але сказалі, што пакінуць дзіця толькі на першы пачатак. Прыязджалі штотыдзень, гулялі з дачушкай. Любілі паехаць з ёю кудысьці да знаёмых. Я ніколі не прымушала іх працаваць, былі ж, урэшце, у гасцях. Сама дзіця і выкупала, і накарміла перад іх прыездам. А што датычыцца бялізны, дык я мыла не толькі ўсё дзіцяці, але і ім. Дачка раз у месяц прывозіла самаходам сваю пасцельную бялізну, і я ім яе мыла ў сваёй сціральнай машыне, хаця пачаў мне дакучаць рэўматызм. Сваіх сіл дзецям не шкадавала.

Да ўнучкі я прывыкла, як да свайго, наймалодшага дзіцяці, дык пераканала дачку і зяця, што павінны яе аддаць у школу ў Беластоку. Лепшая школа! — згадзіліся і яны. І так малая засталася ў нас на вучобу.

Час ляцеў хутка. У дачкі нарадзілася другая дачушка. Прыязджалі цяпер радзей, другую дзяўчынку выхоўвала нянька, а мы першую ўнучку ўжо лічылі амаль сваёй дачкою.

Мушу табе прызнацца, Сэрцайка, што і яна лічыла сваімі бацькамі больш нас, чым сваіх сапраўдных. Мне было цёпла ад гэтага на сэрцы. Вядома, што скончыла яна ў нас і вышэйшую школу. Мы былі шчаслівыя, што не сядзім на старыя гады адны. Старэйшыя сыны прыязджалі рэдка, часцей за ўсё на святы. Унучка была праменьчыкам, што асвятляў нашу старасць.

Пасля школы яна крыху папрацавала ў Беластоку. На канікулах пазнаёмілася з хлопцам з Кракава і праз год выйшла за яго замуж. Вядома, паехала да яго.

І так засталіся мы адны. Унучка званіла, пісала доўгія лісты. Было ёй без нас цяжка, я адчувала гэта. Але толькі я ведаю, як цяжка было без яе нам. Неўзабаве мой муж памёр, і я засталася зусім адна. Унучка з мужам прыязджае да мяне, пасля едуць да бацькоў. Мне сумна, што яна далёка. Яна ж выкачалася на маіх руках!

Цяпер не ведаю, Сэрцайка, што рабіць. Дачка запрашае мяне да сябе і абяцае, што будзе мне ў іх добра. У іх вялікі дом, свабодна. Другая ўнучка вучыцца ў Варшаве. Але я не хачу кранацца з месца. У іх — сваё жыццё, а ў мяне — сваё. Прынамсі ведаю, што калі прыедзе мая каханая ўнучка — дык да мяне. Што ты мне параіш?

**Юстына**

Юстына! Тваёй памылкай было тое, што забрала ты ўнучку ад яе бацькоў. І цяпер баішся нават, што калі ты будзеш у дачкі, дык трэба будзе дзяліцца яе каханнем з іншымі. Гэта сапраўды эгаізм чыстай вады. Едзь да дачкі і жыві там, як чалавек. А дзяцей павінны выхоўваць іхнія бацькі, хіба што здарылася б нейкае няшчасце і ты вымушана была б заапекавацца дзіцём.

**Сэрцайка**